PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 6 (1917) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 7 ЛЮТАГА 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

**Калі 20 студзеня а 6.20 апальшчык адчыніў школу, жахнуўся: з усіх паверхаў сцякала вада.**

## ПАТОП У "ТРОЙЦЫ"



*Свідруюцца дзіркі, каб павыцякала вада са столі.*

Па Бельску ходзіць чутка: Пачатковую школу н-р 3 /вядомую ў горадзе як *беларускую*/ залілі вадою, помсцячы за абліццё фарбай каталіцкай каплічкі, за многаразовае знішчэнне мемарыяльнай дошкі каля Раённай камендатуры паліцыі, за крадзеж літар з крыжа-помніка ў гонар герояў АК.

Раённы камендант паліцыі ў Бельску, надкамісар Міхал Карпюк і начальнік крымінальнага аддзялення, аспірант Рамуальд Альшэўскі не выключаюць і такой магчымасці. Вядома, што не быў гэта выпадак ці недагляд адміністрацыі школы, а, напэўна, наўмысная работа. Невядомы толькі матыў злачынства — ці хтосці хацеў проста жарт зрабіць, ці нешта іншае меў на думцы.

Дырэктар школы Васіль Ляшчынскі і старшыня бацькоўскага камітэта Аляксандр Божка не хочуць узводзіць ніякіх інсінуацый. Ад высвятлення справы, маўляў, ёсць паліцыя. Нашае заданне - як найхутчэй правесці рамонт, ліквідаваць страты, кажуць яны.

Як вялікія будуць гэтыя страты, сёння цяжка сказаць. Відаць, хутчэй за ўсё, меншыя, чымсьці ў першапачатковай ацэнцы. Два мільярды злотых, як падалі тады, каштаваў бы рамонт, калі б вада прабілася цераз сцены і знішчыла вонкавую атынкоўку. Але тут паспрыяла надвор'е - тэмпература вышэй нуля і моцны вецер падсушылі сцены. Напэўна, аднак, страты будуць большыя, чымсьці вызначыла спецыяльная камісія - 570 мільёнаў. Толькі трэба было б заплаціць, калі б не мяняць усяго паркету, без уліку пашкоджаных навуковых дапаможнікаў ды часткі абсталявання кабінетаў.

Так ці сяк, давядзецца праводзіць генеральны рамонт. Крыху ранавата, калі ўлічыць, што будынак быў пастаўлены ўсяго восем гадоў таму назад. Але, што зробіш?

Дырэктар звярнуўся за дапамогаю да бацькоў вучняў і да бельскіх прадпрыемстваў. Першымі на зварот адгукнуліся: малачарня - дала транспарт, і "Polbud" - пазычыў машыну для асушкі сцэнаў і столі. І людзі прыйшлі. У суботу 23 студзеня "тройка" была поўная: бацькі і дзеці, якія спрытна завіхаліся між дарослых, згодна зрывалі набрынялы вадою паркет. Лапатала на ўвесь будынак польбудаўская сушылка. Гэта ўсё падрыхтоўчыя працы, уласцівы рамонт пачнецца толькі тады, калі ўсё будзе высушанае, ачышчанае, упарадкаванае.

Да сканчэння рамонту будынкам не можна будзе карыстацца. Для патрэб "тройкі" часова аддадзены будынак прадшколля н-р 7 на вуліцы Казімяжоўскай /на дзве змены 8 класаў - па 4 на кожную/. Два класы будуць вучыцца ў Доме настаўніка, частка дзяцей у памяшканнях суседніх школ. Як доўга будзе працягвацца такая сітуацыя - невядома.

* * *

У сувязі з узломам у Пачатковую школу н-р 3 у Бельску можна было пачуць апінію, што, каб быў начны стораж, да трагедыі не дайшло б. Не заўсёды, маўляў, аплачваецца ашчаджаць, бо на гэтым можна страціць мільярды.

Паколькі мне вядома, у Бельску /і не толькі ў Бельску/ ніводная школа не мае начнога стоража. Але, каб ён і быў, сумняваюся, ці змог бы прадухіліць няшчасце. Якраз, калі я быў у камендатуры паліцыі, сказалі мне там, што ўначы абакралі бельскі ПКС, дзе працуюць два начныя сторажы. Вось табе і на!

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**
**Фота А. Божкі**

P. S. Калі хто можа фінансава дапамагчы Пачатковай школе н-р 3 у Бельску, дык просім грошы пералічваць на рахунак:

Szkoła Podstawowa nr 3
w Bielsku Podlaskim
**PBK Warszawa**
Oddział Bielsk Podlaski
nr 370419-9511-131

Грошы можна таксама асабіста прынесці ў школу.

## ВАДА НА ЧОРТАЎ МЛЫН

Выпадак у бельскай школе н-р 3, пра які вышэй піша Мікола Ваўранюк, выклікае самыя розныя меркаванні наконт яго прычын і асобы (асобаў?), што ўчыніла гэтае злачынства. У Бельску перш за ўсё. Гэтак яно ў нас завялося, што некаторым крымінальным праступкам грамадская думка прыдае абалонку больш густую, чымсьці яна аказваецца ў сапраўднасці. Асабліва, калі справа датычыць крыўды, учыненай на далікатным сутыку міжнацыянальных дачыненняў у нашым бельска-гайнаўскім посткамуністычным расоле. Мяне, натуральна, не здзіўляе тое, што беларуская частка Бельска звязвае гэты выпадак з, так сказаць, агульным настроем непрыхільнасці да ўсяго, што хоць крыху папахвае беларускасцю. Не здзіўляе, але — засмучае. Бо сведчыць гэта аб тым, што далей мы ўсё топчамся ў зачараваным крузе калі не адкрытай варожасці, то прынамсі насцярожлівасці і нацыянальнай прадузятасці.

Было б добра, каб паліцыя выявіла й схапіла праступніка, які, выглядае на тое, узломваўся ў школу і раней, наносячы ёй матэрыяльныя страты. Паколькі асоба гэтая адно нішчыць школьную маёмасць, нічога не забіраючы, можна дапусціць, што маем дачыненне з чалавекам псіхічна неўраўнаважаным, маньякам. У гэткіх выпадках, як кажуць, чалавека трэба лячыць, а не судзіць.

Якім бокам гэтая ўся справа не павярнулася б, яна нічога суцяшальнага не прынясе ні педагагічнай радзе „тройкі" і бацькоўскаму камітэту, перад якімі велізарны клопат адрамантавання школьнага будынка і наладжання нармальнага рытму працы, ні падзеленаму недаверам бельскаму грамадству. Вада, што палілася з другога паверха бельскай школы, трапіла таксама на чортаў млын, у якім мелецца зерне ціхага канфлікту.

**ЯН МАКСІМЮК**

## ПАЛІТЫКА І ХРЫСЦІЯНСКІЯ ВАРТАСЦІ

Несумненна, шмат рацыі маюць тыя, якія кажуць, што ў сённяшняй эканамічнай сітуацыі краіны вырашанне польскім парламентам пытання абортаў належыць да праблемаў другарадных (tematów zastępczych). Маўляў, трэба найперш падумаць, як накарміць жывых, а потым вырашаць, які лёс рыхтаваць ненароджаным. У палітыцы такое называецца палітычным прыярытэтам. Пытанні палітычнай натуры можна пачаргаваць паводле іхняй грамадскай важнасці, а ці можна тое самае зрабіць з пытаннямі маральнай натуры? Яны, безумоўна, заўсёды застаюцца актуальнымі і важнымі, без увагі на ступень матэрыяльнага забеспячэння грамадства. Але паміж палітычнымі і маральнымі пытаннямі існуе і болей канкрэтнае разыходжанне. Палітычную дылему можна вырашыць галасаваннем у парламенце (вырашэнне такое мае моц дзяржаўнага закона, які ў прынцыпе можна замяніць іншым законам пры наступным галасаванні). Пры маральнай дылеме механізм парламенцкай дэмакратыі выяўляе, на жаль, усю сваю зямную недасканаласць. Маральнасць, у гэтым кантэксце, аказваецца залежнай ад палітычнай кан'юнктуры. А хацелася б думаць, што маральныя законы болей трывушчыя за палітычныя, і вынікаюць яны не з арыфметыкі ў парламенце, а, так сказаць, з натуры быцця.

Вышэй згаданае разыходжанне стаецца яшчэ больш выразнае, калі з дактрынай ліберальнай дэмакратыі сутыкнецца аўтарытарная дактрына Касцёла. Дактрына Касцёла ў сваёй натуры — бескампрамісная. Ну бо ці каму можа прыйсці ў галаву думка, каб ставіць пад сумненне, скажам, адну з запаведзяў Божых? І галасаваць над ёю ў парламенце? Натура навукі Касцёла — усё, або зусім нічога. Натура дэмакратыі — добра тое, што магчымае.

Касцёл, angaжаваны ў палітычнае жыццё, без сумнення мусіць прыняць правілы палітычнай гульні ды ісці на кампраміс. Бо палітыка, як хтосьці заўважыў, з'яўляецца мастацтвам кампрамісаў. У нечым трэба паступіцца, каб нечага дасягнуць. Прыярытэты вызначае актуальная грамадская патрэба, а не вечны закон (lex eterna). Прыкладаў на гэта маем аж задосыць у нашым жыцці. Касцёл праз сваіх палітычных аднадумнікаў цвёрда змагаецца за закон супраць абортаў, але не настойвае, каб адмяніць смяротнае

☞ *Працяг на стар. 4*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Na czym opiera się w tej chwili trwałość rządu Suchockiej? Tu odpowiedź jest prosta — nie ma chętnych do walki o stołki w państwie, którego Parlament został tak przemieszany i rozbity, że nie wiadomo kto, z kim i w jakie porozumienie może wejść.*
*(Gazeta Polska, nr 3)*

**А мы думалі, што гэтая трываласць грунтуецца ўжо толькі на традыцыйнай у краіне галантнасці ў адносінах да дамаў.**

* * *

*Prokurator zajął się Kaczyńskim.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 12)*

**Там жа:**

*Poseł Kazimierz Switoń (RdR) zwrócił się w środę do Prezydium Sejmu z prośbą o zawieszenie jego immunitetu poselskiego, aby mógł bez przeszkód stanąć przed sądem za obrazę prezydenta.*

**Мала верагоднае, каб суд навёў парадак у парламенце. Нават пасадзіўшы палову паслоў...**

* * *

*Palestyńczyk krzycząc Allah Akbar zaatakował wczoraj nożem czterech ludzi na dworcu autobusowym w Tel Awiwie. Po chwili został zastrzelony przez kioskarza. Jednym z rannych jest pracujący w Izraelu Polak Jerzy Hajduk z Bielska Podlaskiego.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 14)*

**Нашых б'юць?**

* * *

*W ostatnim tygodniu roku nasi politycy przećwiczyli właściwie wszystkie stałe elementy gry. Wartości chrześcijańskie w radiu i telewizji, aborcje, znęcanie się nad prywatyzacją, apele, by rząd (najlepiej w ciągu 7 dni) uzdrowił sytuację na Śląsku i gdzie indziej też, przegrywanie przez koalicję, rządową oczywiście, ważnych głosowań (posłowie byli, ale gdzieś się zapodzieli), całonocne negocjace ze strajkującymi, nerwowe rozważania, o kogo by tu poszerzyć koalicję, tajemnicze listy pana prezydenta do Sejmu, z których głównie wynikało to, że nasi parlamentarzyści barszcz z uszkami powinni byli konsumować na Wiejskiej, a nie w domu itp. itd.*
*(Polityka, nr 2)*

**А дзе Анастасія?!**

* * *

*Polsce przydarzyła się rzecz bez precedensu w historii. W ciągu niespełna trzech lat, nie zmieniając granic, zmieniła wszystkich swoich sąsiadów.*
*(Polityka, nr2)*

**І ўсё роўна жывецца не лепш, чымсьці перад гэтым прэцэдэнтам.**

* * *

*Obiektywizm jest dzisiaj dowodem słabości, trzeba wybrać swoich sprzymierzeńców, opowiedzieć się za lub przeciw. i najważniejsze — wrócić do misji, którą od wieków pełniła na tych terenach Rosja. Z jakiej racji mamy darować całe połacie swego kraju, ogromne bogactwa naturalne narodom, które nie umiały stworzyć własnej państwowości w procesie historycznego rozwoju? One i teraz nie utrzymają jej, ugrzęzną w wojnach między klanami. Na świecie istnieje coś takiego jak dyktat silniejszych, nie ma co poddawać tego w wątpliwość.*
*(Polityka, nr 2, rozmowa z Eduardem Limonowem, pisarzem rosyjskim i politykiem-nacjonalistą)*

**І яшчэ крыху (там жа):**

*Proszę nie liczyć, że przyjmę determinizm historyczny i fatalistyczną koncepcję rozpadu kraju. Nie mamy zamiaru umierać, a jeśli to nastąpi — umrzemy wraz z całym światem, mogę to pani obiecać!*

**Дзякуем.**

* * *

***Віктар Шалкевіч піша брудныя беларускія блюзы і марыць аб грамадзянстве Вялікага княства Літоўскага.***
*(Пагоня, н-р 1 (15), Горадня)*

**У пашпарце і ў польскім тэлебачанні — поляк, на „Басовішчы” — беларус, а ў Гародні — ліцвін. Каждый по-своему с ума сходит.**

* * *

*Zenon P., rolnik spod Włodawy, dołączył do niezwykle ekskluzywnego grona — Stalina, Churchilla i Roosevelta — stanowiącego o polskich granicach po II wojnie światowej. W wiele lat po Jałcie i Poczdamie, staraniem tego właśnie chłopa, Polska weszła w posiadanie niewielkiej wyspy na granicznej rzece — Bugu. (...) Bug w tym miejscu parę razy zmieniał koryto i wyspa z łąką była raz bliżej polskiego, to znowu radzieckiego brzegu. Żadna ze stron się jej nie zrzekła, ale też nie żądała podporządkowania sobie tego terenu. Dotad, aż krowy polskiego rolnika nie weszły w szkodę Związkowi Radzieckiemu. Łaciata agresorka została uprowadzona, wydojona i dożywotnio zesłana do kołchozu. Jej następczyni, w tydzień później, saperzy zza rzeki zgotowali jeszcze okrutniejszy los — wlazła na minę. Ostatecznie Zenon P. dopiął swego — już go nie nękają. Dwie krowy ofiary nie poszły na marne.*
*(Polityka, nr 3)*

* * *

*Sejm z zapałem poprawia projekt budżetu na przyszły rok.*
*(Polityka, nr 4)*

**Адно несумненнае: Сейм напэўна паправіць сабе настрой**

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Лех Валэнса** звярнуўся да міністра ўнутраных спраў з просьбай рассакрэціць усялякія арыгінальныя матэрыялы, на якіх знаходзіцца яго ўласнаручны подпіс. Гэтая просьба з'ўляецца адказам на патрабаванні адвакатаў з г. Бжэг, якія бароняць асоб абвінавачаных у абразе прэзідэнта. Выявіць з архіваў МУС матэрыялы падпісаныя Л. Валэнсай патрабуюць таксама Анджэй Гвязда, Корнель Маравецкі, Казімеж Світань і Анна Валентыновіч. "Прэзідэнт не баіцца праўды і хацеў бы, каб усе яе ведалі" - сказаў прэс-прадстаўнік прэзідэнта Анджэй Джыцімскі.

**"Усе мы ідзем да рыначнай гаспадаркі,** але кожны павінен ісці сваёй дарогай, інакш быць не можа" - адказаў **Лех Валэнса** на пытанне, што раіць ён беларускім рэфарматарам. Гэты адказ з'ўляецца часткай вялікіх інтэрв'ю для "Народнай газеты" і "Звязды" пасля пабыўкі ў Польшчы на запрашэнне Міністэрства замежных спраў групы беларускіх і расейскіх журналістаў.

**Г-7 - група найбольш індустрыялізаваных дзяржаў свету** - вырашыла стварыць "шматбаковы фонд" велічынёю ў 60 мільёнаў ECU /75,2 млн. долараў/, каб дапамагаць усходнееўрапейскім краінам і рэспублікам былога Савецкага Саюза ў павелічэнні эфектыўнасці засцерагальных сістэм на атамных электрастанцыях.

**Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан** правёў тэлефонную размову з прэзідэнтам Украіны **Леанідам Краўчуком.** Клінтан заявіў, што ён станоўча ставіцца да раней- шых абавязацельстваў ЗША прызнаць Украіне 175 мільёнаў долараў патрэбных для знішчэння савецкіх атамных ракет.

**Расія паслала** свайго віцэ-міністра замежных спраў **Віталія Чуркіна** ў Заграб, каб перасцерагчы харватаў перад магчымым працягваннем наступлення супраць сербаў. У прысутнасці харвацкага прэзідэнта **Франьё Туджмана** заявіў ён, што Расія можа патрабаваць ад ААН санкцый супраць Харватыі, калі будзе яна працягваць мілітарныя дзеянні, якія не адпавядаюць мірным намаганням, робленым у Жэневе.

**Суд над дванаццацю ўдзельнікамі** путчу ў жніўні 1991 г. пачнецца 14 красавіка - вырашыў расійскі Вярхоўны Суд. Загадаў ён вызваліць усіх абвінавачаных з турмы да часу працэсу. З ліку дванаццаці путчыстаў шэсць чалавек ужо раней апынуліся на свабодзе. Астатняя шасцёрка вызвалена з турмы пад варункам, што яны самавольна не выедуць з Масквы. Сведкамі на судовым працэсе будзе 120 чалавек, у тым ліку і былы прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў.

**За пост прэзідэнта Летувы** змагацца будуць два кандыдаты: **Альгірдас Бразаўскас** - старшыня дэмакратычнай партыі працы і **Стасыс Лазарайтыс** - пасол у ЗША. Аб падтрымцы першаму кандыдату заявіла Галоўнае праўленне Саюза палякаў у Летуве, якія лічаць, што яго дзейнасць спрыяе вырашэнню пытанняў нацыянальных меншасцяў.

**Фонд "Музыка крэсаў"** правёў у Любліне семінар на тэму "Музыка сямейных абрадаў Сярэднеўсходняй Еўропы - хрысціны і хаўтуры". Удзел у ім прынялі музыколагі, этнографы і фальклярысты з Польшчы, Беларусі, Летувы, Расіі і Украіны.

**У Бельску-Падляшскім** былі затрыманы два высокакваліфікаваныя хімікі, якія займаліся нелегальнай прадукцыяй амфетаміну. Гэты наркотык на рынку каштуе 1 мільён злотых за грам, а іх фабрычка магла выпусціць нават некалькі кілаграмаў гэтага рэчыва.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- ✓ ГСы банкрутуюць.
- ✓ Як жыць маладым і беспрацоўным.
- ✓ Мы любім сацыялізм...
- ✓ "Caprichos" — незвычайны спектакль у выкананні беластоцкіх студэнтаў.

Рэдакцыя тыднёвіка „Ніва”
выказвае глыбокае спачуванне
нашаму карэспандэнту
**АНДРЭЮ ГАЎРЫЛЮКУ**
з прычыны смерці
**ЦЕШЧЫ**



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

## ПАЧЭСНАЕ МЕСЦА ПУСТЫМ НЕ БУДЗЕ

Нават рускамоўныя выданні на Беларусі імкнуцца ўнесці сваю лепту ў адраджэнне матчынай мовы. Рэдакцыя штотыднёвіка "Белорусский предприниматель" абвясціла аб намеры правесці ў бягучым годзе акцыю "За чысціню беларускай мовы". Яе супрацоўнікі будуць прыдзірліва сачыць за выступленнямі ў друку і на трыбуне лідэраў партый і руху, членаў урада, дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі і бізнесменаў. Сярод тых, хто вытрымае цяжкі для многіх былых намеклатуршчыкаў экзамен даўжынёй у 365 дзён, абяруць "беларуса года".

## ЧЫТАЙЦЕ, ЗАЙЗДРОСЦЕ

Пашанцавала тым беларусам, хто мае замежны пашпарт. Няхай сабе і састарэлага ўзору з чырвонай вокладкай і бронзавым надпісам "Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік". Падчас чакання новых беларускіх пашпартоў яны раней за ўсіх змогуць даказаць сваю прыналежнасць да Рэспублікі Беларусь, бо толькі ў замежным пашпарце ставіць штамп "грамадзянін Рэспублікі Беларусь" тым, хто падаў заяву на атрыманне дазволу на выезд.

## НЕ ЎСЕ ПРЫСЯГАЛІ

Па дадзеных Міністэрства абароны Беларусі каля 10 працэнтаў ад агульнай колькасці вайскоўцаў не прынялі прысягу 31 снежня мінулага года. Сярод прычын называюцца ад'езд для праходжання далейшай вайсковай службы ў іншых раёнах СНД, планавае звальненне ў запас, знаходжанне ў адпачынку ці на лячэнні.

## ЧАС АПЯРЭДЗІЎ НАС

Выйшаў з друку першы з шасці тамоў біяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" ў выдавецтве "Беларуская энцыклапедыя". У ім утрымліваюцца звесткі пра ўсіх беларускіх пісьменнікаў, паэтаў і аўтараў навуковых кніг ад Кірылы Тураўскага да сучасных маладых, незалежна ад нацыянальнасці, у тым ліку і беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў.

Адзін з аўтараў слоўніка, вядомы дзеяч беларускага адраджэння Адам Мальдзіс адразу ж папрасіў прабачэння за штучную палітызацыю, якая ў 1986 годзе /калі слоўнік здаваўся ў выдавецтва/ была неабходнай умовай выхаду яго ў свет.

## БЕЗ ПАПЕРКІ ТЫ - КАЗЮЛЬКА

Чыгуначныя ведамствы прынялі рашэнне аб аб'яўленні вайны з перакупшчыкамі білетаў на чыгунцы. З 20 студзеня жадаючыя патрапіць у далёкае ці блізкае замежжа павінны будуць прад'явіць праваднiку пасведчанне асобы. А кожны білет цяпер - імянны.

## НЕ ПАТРЭБНА РУДА НАМ РАСЕЙСКАЯ

Ёсць надзея, што Беларусь з цягам часу не будзе моцна залежаць ад паставак расейскай сыравіны.

Па папярэдніх дадзеных, Беларусь мае ў запасе сотні мільёнаў тон жалезнай руды і павінна яе хапіць на многія дзесяцігоддзі.

## ДЗЯКУЙ, ВАША ВЯЛІКАСЦЬ!

У вёсцы Ласосна Гродзенскага раёна ў хуткім часе з'явіцца мячэць на 100 вернікаў. Мусульмане маюць надаць новаму прыходу імя караля Саудаўскай Аравіі Фатха, каб аддзячыць за абяцанне выдзеліць на будоўлю храма 200 тысяч долараў.

## МЫ - БЕЛАРУСЫ!

На Беларусі ствараецца музей Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Першым экспанатам музея стаў куплены нядаўна на аўкцыёне ў Іспаніі бел-чырвона-белы сцяг, які пяць разоў уздымаўся ў Барселоне ў гонар выдатнага беларускага гімнастыка Віталя Шчэрбы.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## АДГАЛОСКІ

Szanowna Redakcjo!

Z bardzo dużym zdziwieniem przeczytałem artykuł p. Dawidziuka z nr 49/92 "Niwy" a stawiający zarzut, że będąc prezesem "Towarzystwa Pomost" zajmującego się popularyzacją wiedzy o sprawach narodowościowych w Europie Śr-Wsch. i krzewieniem idei tolerancji, robię to jako bliżej nie wyjaśnioną antybiałoruską intrygę.

Ponieważ list p. Dawidziuka był przede wszystkim atakiem na moją skromną osobę, odpowiadam osobiście, jako osoba prywatna.

1. Argument że głoszenie potrzeby współpracy polsko-białoruskiej /i innych narodów Europy Środkowej/ nie może głosić członek KPN - dlatego że nim jest, uważam za absurd. A niby dlaczego tak miałoby być? P. Dawidziuk pisze, że sam fakt powoływania się na Piłsudskiego dowodzi złych intencji. W polskiej myśli politycznej i w potocznym odczuciu osobę Piłsudskiego wiąże się raczej z ideą współpracy z narodami Europy Środkowej /w opozycji do Dmowskiego, który stawiał na Rosję/ i to w oderwaniu od rzeczywiście dyskryminującej polityki narodowościowej sanacji. Każdy kto w Polsce żyje i interesuje się polityką oraz historią to wie, toteż argumentację Autora uważam tu albo za przejaw piramidalnej wręcz niewiedzy, albo złej woli.

2. W artykule z nr "0" /sygnalny/ 92 "Gazety Polskiej" użyłem cytowanego przez p. Dawidziuka sformułowania o "ważnej funkcji" Białorusi w polityce środkowoeuropejskiej, z uwagi na jej położenie geograficzne. Co tutaj wzbudziło takie jego oburzenie? Położenie geograficzne kraju jest zjawiskiem obiektywnym, niezależnie istniejącym od czyjejkolwiek woli. Rzeczą publicystyki politycznej jest dostrzeganie takich właściwości.

3. Dostrzegł p. Dawidziuk że "Pomost nie ma omal żadnego społecznego znaczenia" i że „nie stanowi przeciwwagi dla towarzystw kresowych" nie będących dla niego partnerem do rozmów. Czyli że jednak jakąś różnicę między nim a "Pomostem" dostrzega?

Nasuwa się pytanie - ci domniemani rewizjoniści terytorialni to nie są dla Białorusinów partnerzy /co oczywiste/, ale i ci, co chcieliby w Białorusinach widzieć partnera - także nie, w/g p. Dawidziuka. No to kto z Polaków jest w/g niego tym właściwym partnerem i czy w ogóle Polacy to dla niego jakikolwiek partner? Oczywiście nie ma obowiązku Polaków lubić, ale jak się uważa, że wszyscy oni są diabła warci i tylko na prawosławnych dybią to lepiej pisać to wprost, a nie robić ludziom wodę z mózgu. Do współpracy potrzeba zawsze dwóch stron.

4. Z faktu, że będąc prezesem "Towarzystwa Pomost" jestem zarazem działaczem KPN nie wynika fakt politycznego związania tego stowarzyszenia z żadną partią - są tam członkowie bardzo różnych ugrupowań politycznych i osoby bezpartyjne /PPS, KLD/ i różnych narodowości. Z uwagi na dużą ilość pracy mam zamiar zresztą zrzec się funkcji prezesa po najbliższym Walnym Zebraniu tego stowarzyszenia.

Z poważaniem -

TOMASZ SZCZEPAŃSKI

## ЯК БУДЗЕМ ЖЫЦЬ?

Новы год прывітаў нас вельмі „вясёлымі" падарункамі — павысіліся цэны на хлеб, малако, тэлевізію, тэлефоны, гарэлку... Вось наведае мяне сусед і прыдзецца частаваць яго самагонкай, бо на манапалёўку маёй пенсіі замала, а з кілаграма цукру літр сам... выдушу. Падумайце, мае дарагія, з маёй пенсіі — 930000 зл. вельмі цяжка пражыць. Наш урад зусім не дбае пра народ. Пісьманосец калісьці ехаў на вёску з поўнай сумкай газет, а цяпер у яго за пазухай толькі „рэкламоўка", каб не пагубіць пенсіённых пераводаў. „Gazeta Współczesna" напісала, што „samobójcy lubią poniedziałek". Як штомесяц будуць павышаць цэны, звальняць з работы і абкладаць нас з усіх бакоў падаткамі, дык будуць вешацца і ў нядзелю, і ў іншыя дні.

Наш урад гаворыць, што няма грошай. Гэтыя казкі хай ён расказвае сабе; грошы ёсць, толькі трэба разумна іх дзяліць. Мой сусед прамучыўся 12 гадоў у лагерах Варкуты — капаў вугаль. Ён не паехаў туды на адпачынак — яго завезлі ў кайданах. І няма яму за гэта ніякай падзякі ад нашых улад. А той, хто нідзе не быў — ветэран. І дастае ён два мільёны злотых месячна.

Вось якая справядлівасць.

ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР

## DOLARY, DOLARY, RUBLE, FORINTY...

Быў калісьці такі анекдот. Прастытутка патае свайго кліента, адкуль ён. "Z Białegostoku", кажа той. "A, z Białegostoku, to tam, gdzie rublami płacą", канстатуе яна. У Беластоку, што праўда, рублямі нідзе не плацяць, але калі рублі патрэбныя, скажам, у сувязі з выездам за ўсходнюю мяжу, набыць іх можна без асаблівых захадаў. Нягледзячы нават на тое, што канторы абмену валюты і дзяржаўныя польскія банкі рублямі ўжо не спекулююць. Хопіць паехаць на гарадскі базар у Беластоку пры вуліцы Кавалерыйскай - "там есть всё или почти всё". Што праўда, гэта ўжо не той базар, які быў пры вуліцы Бэма - сёння на Кавалерыйскай не ўбачыш элегантнага валютчыка-франта з прышпіленым да грудзей наборам валют, які няспынна, нібыта сам да сябе, мармыча пад носам: dolary, dolary, ruble, forinty... Гандлёвыя адносіны на базары на Кавалерыйскай набылі рынкава-цывілізаваную форму. Кантораў абмену валюты налічыў я сам менш дзесятак. Кожны з іх спадзяецца, вядома ж, на добры торг з рускімі, якія збудуць з рук тавар ды наспех будуць абменьваць свае залатовачкі на долары. Рублі ў канторы на Кавалерыйскай, а гандлююць імі толькі некаторыя, каштуюць 30-40 злотых. Што цяпер значыць 40 злотых у Польшчы? Гэта напэўна менш, чым вартая папера, на якой аддрукаваныя рублі. Валютчыкі падпірай-сцены не зніклі і на Кавалерыйскай, але ўсякі гешэфт з імі страціў ужо тую афарбоўку таемшчыны і канспірацыі, як гэта бывала за папярэдняй улады на Бэма. Дэмакратыя дазволіла ім на яўную спекуляцыю валютай - вылазіць нахабніцтва.

Кажуць, што да новага года на базары было столькі рускіх, што не прапхнуцца. Цяпер іх як бы паменшала. Ва ўсходніх суседзяў завастрыліся пашпартныя законы, падаражэлі білеты і тавар. Але едуць. Запытаў я аднаго ўкраінца, колькі яго каштавала гэтае падарожжа, не лічыўшы, зразумела, кошту тавараў, якія з сабою прывёз. Каб сесці ў цягнік і ехаць, трэба было заплаціць дзевяць тысяч купонаў і трынаццаць долараў. Наступныя кошты пачынаюцца на мытні - у залежнасці ад таго, што вязеш, гаварыў ён, трэба даць /што-колечы гэта ні азначала б/ пяць, дзесяць, пятнаццаць долараў. На некаторых кантрольна-прапускных пунктах, падумалася мне, мытны кантроль праходзіць супольна. Што-колечы гэта ні азначала б.

На базары можна набыць у рускіх шмат тавараў хатняга ўжытку - ад люстэрка і зубной пасты да тазаў. Усе мы ходзім на базар і купляем гэтыя тавары. Адным з нас, звычайна, бракуе грошай, каб схадзіць у краму за рогам вуліцы і купіць тое ж самае. Іншыя ж, хоць і маюць грошы, таксама бяруць ад рускіх, бо адчуваюць, што застануцца ў дурнях, калі прапусцяць такую нагоду. Да таго ж, на базары можна танна набыць папяросы і алкаголь. Без алкаголю, як адзначыў адзін дзядзька з Гарадка, сёння няшмат знойдзеш аформіць. Адкуль жа мне, кажа, пенсіянеру, браць грошы на польскую гарэлку. Вось і ўся сутнасць існавання базару ў капіталістычнай Польшчы. Без яго вялікая частка грамадства апынулася б на сацыяльнай ускраіне.

Эканамічны інтарэс на беластоцкім базары паспяхова пазбаўляе палякаў палітычна-гістарычных сентыментаў да ўсходніх суседзяў. Побач польскіх рэкламных стэндаў знаходзяцца, не ў меншай колькасці, і рускія. "Колготы оптом", "Добро пожаловать в Hetman".

АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК

## ХТО і ЧАГО ЕЗДЗІЎ?
### — пытаю яшчэ раз

У „Ніве" н-р 5 ад 31 студзеня г.г. быў змешчаны мой ліст адносна паездкі дэлегацыі беларусаў Беласточчыны ў Менск на І Сход беларусаў блізкага замежжа. Рэдакцыя дазволіла сабе на папраўкі ў тэксце і ў выніку ўзнікла памылка. Справа ў тым, што сказа: *На сход у Менск паехалі на сваім аўтобусе (купленым за грошы Міністэрства культуры і мастацтва) амаль усе члены Беларускага грамадска-культурнага таварыства* ў маім лісце ўвогуле не было. Справа ў тым, што я не ведаю, хто і чаго ездзіў у Менск на аўтобусе з БГКТ. Будучы тады ў Менску на сходзе я пераканаўся, што сярод удзельнікаў сходу была своеасаблівая зборная каманда БГКТ (недзе каля 50 чалавек). З іх асабіста ведаю толькі: Валянціну Ласкевіч, Эву Ласкевіч (дачка Валянціны), Янку Сычэўскага, Міхася Хмялеўскага, Уладзіміра Юзвюка, Паўла Лемеша, Аляксандра Іванюка, Аляксея Карпюка, Мікалая Мікалаюка, Васіля Сакоўскага, Любу Гаўрылюк, Аляксандра Баршчэўскага — гэта ўсяго 12 чалавек, А хто яшчэ ездзіў? Як падбіралася дэлегацыя ад БГКТ? Чаму ў Менск паехала аж 50 чалавек ад Таварыства? З такімі пытаннямі звяртаюся я да кіраўніцтва ГП БГКТ. Адказ павінен зацікавіць многіх.

ЯН МОРДАНЬ

**Ад рэдакцыі:** Рукапіс Янкі Морданя падчас апрацоўкі матэрыялу мы неўласціва адчыталі. Аўтара і чытачоў „Нівы" перапрашаем.

Лісты ў рэдакцыю

### ДАРАГАЯ „НІВА"!

Прабач, што пішу да Цябе, думаю аднак, што магу на Тваіх старонках выказаць свае думкі. Хаця ад апошняга з'езду карэспандэнтаў прайшло некалькі гадоў, безупынна ўспамінаю пра тое, што там гаварылася. Усё аднак пайшло па-іншаму і таму перастаў я пісаць. Настаў такі час, што ўсё перавярнулася. Невядома было, што думаць, куды звярнуцца. А сам я не з такіх, што „дзе вецер, там і я". Гледзячы на гэта, як хутка іншыя змянілі погляды, рашыў я прамаўчаць усё, што мяне хвалявала. Думаў, няхай час зробіць сваё, пакажа, хто мае рацыю.

Апошнім часам прыйшлося перажыць і пару асабістых драмаў. Троху сам хварэў. А надаўна пахаваў бацьку. Вечная яму памяць. Добры быў чалавек, але што зробіш, лёсу не зменіш. Мне аднак далей жыць трэба. Пагадзіўся з новай рэчаіснасцю і далей шмат працую грамадска.

З увагі на гэтыя вялікія змены, шмат чаго далей не разумею. Спадзяюся, што іншыя дапамогуць мне разабрацца ў нашай навейшай гісторыі. І так падумаў я: давай напішу ў „Ніву", павіншую са Святам Ражджаством Хрыстовым і з Новым годам. Гэты сам Мароз, які дзесяць гадоў назад пачаў пісаць у „Ніву", жадае Вам усяго найлепшага.

Шмат часу „Нівы" не чытаў і шмат чаго не ведаю. Таму хацеў бы запытаць: што сталася, што Мікалай Панфілюк пачаў у „Ніву" пісаць? Ён жа так на яе пляваў і праклінаў, проста нагамі яе таптаў. А тут маеш табе! А можа Ты, „Ніва" яго перапрасіла? А, можа, перканала чым іншым? Гэта мяне здзіўляе! А можа Панфілюк перахрысціўся? Цяпер гэта моднае ў нас.

Калі выйдзе так, што надрукуеце гэты мой ліст, ганарар прашу пералічыць на Беларускі музей. Калі дазволіш, „Ніва", буду пісаць часцей.

ГРЫША МАРОЗ

**Ад рэдакцыі:** Спадар Грыша, цешыць нас, што Вы пачалі зноў чытаць „Ніву" і, найважнейшае, — пісаць нам. Дзякуем за святочныя і навагоднія пажаданні і верым, што ў „Ніве" знойдзеце адказ на шматлікія пытанні, якія вас хвалююць. Не ведаем, чаму Мікола Панфілюк змяніў свае погляды ў адносінах да „Нівы", але цешыць нас, што змяніў і лічыць наш тыднёвік сваім.

Мы лічым, што кожны павінен мець права выказаца на кожную тэму ў такой форме, у якой захоча, а як гэта зробіць, будзе толькі сведчыць пра яго. Хаця ацэньваюць нас па-рознаму тыя, што чытаюць „Ніву" і тыя, што яе не чытаюць, мы вітаем усіх на нашых старонках, таксама і тых, якія маюць іншыя погляды, чым рэдакцыя. Ведаем, што „Ніва" ёсць адзіным беларускім часопісам у Польшчы і таму для ўсіх яна адкрыта. З радасцю вітаць будзем усіх карэспандэнтаў, якія захочуць да нас вярнуцца і разам з намі рэдагаваць „Ніву".

### ДАРАГАЯ „НІВА"!

Калі ты ўжо ўсім раіш і памагаеш, дык дапамажы і нам — жыхарам вёскі Бялкі, што ў гміне Нарва.

У нашай вёсцы быў тэлефон у доме Кастуся Нікіцюка, але вот загадаў яму плаціць 100 тысяч злотых у месяц за карыстанне апаратам. Кастусь адмовіўся ад так дарагой мэблі ў сваёй хаце.

У той момант прыехаў у нашу вёску чалавек з Беластока (называецца ён Раман), які адкрыў у нас краму ў былым ГСаўскім будынку. Па яго просьбе вот паставіў тэлефон у краму.

У жніўні мінулага года Раман закрыў краму, а тэлефон астаўся ў будынку, пад ключом, і жыхары вёскі не маюць да яго доступу.

Нам здаецца, што гэта яшчэ горшая справа, чым у Хамантоўцах. У нас ёсць добрая лінія і тэлефон, які часам так звоніць, што чуваць яго нават на вуліцы. Ніхто толькі не падымае трубку.

Калі каму трэба пазваніць, няма іншага выхаду як толькі ісці 4 кіламетры ў Трасцянку. Часам ноччу трэба будзіць чужога чалавека. І гэта ўсё ў сітуацыі, калі ў сваёй вёсцы ёсць тэлефон. Ці ж гэта не смешнае?

Вельмі просім цябе „Ніва", апублікуй наш ліст як найхутчэй. Можа наш войт прыпомніць сабе, што ёсць такая вёска як Бялкі, і зробіць штосьці, каб тэлефон быў даступны яе жыхарам.

Наш войт чытае „Ніву" ад дошкі да дошкі.

ЖЫХАРЫ ВЁСКІ БЯЛКІ

**Ад рэдакцыі:** Спадар Тапалянскі, як гэта сталася, што ў вёсцы, якой жыхары Вас шануюць і паважаюць, тэлефон ёсць, а нават яго няма?

# ПАЛІТЫКА І ХРЫСЦІЯНСКІЯ ВАРТАСЦІ

☛ Працяг са стар. 1

пакаранне за злачынства, а ўжо цалкавіта прамоўчвае маральную дылему — ісці ці не ісці ў войска. А ўсё ж гэтыя пытанні па сутнасці зыходзяцца клінам на маральным наказе „Не забівай". Наказ хрысціянскай міласэрнасці ў супастаўленні з законам аб падатковых абкладаннях выглядае даволі хістка. Але нават самым артадаксальным дэмакратам не прыходзіць на розум, каб абкласці падаткамі адно багатых, а бедных, якім хапае толькі на хлеб і суп, пашкадаваць і ад падаткаў звольніць. Пералік падобнага можна было б працягваць, але й вышэй упамянутага хопіць, каб ілюстраваць тэзіс: палітычнае замацоўванне тэалагічных, маральных ці грамадскіх пытанняў касцельнае дактрыны на самай справе іх не замацоўвае, а параджае адно яшчэ больш сумненняў і, так бы мовіць, вальнадумства.

Не ведаю, ці гэта якраз і паўплывала ў найбольшай ступені на палітычную думку Захаду, дзе найбольш аптымальным вырашэннем суіснавання Касцёла і дзяржавы прынята лічыць аддзяленне гэтага першага ад непасрэднага ўплыву на палітычны працэс. І без гэтага Касцёлу застаецца вялікая роля маральнага настаўніка ў грамадстве. Я асабіста маю такое ўражанне, што Рымска-каталіцкі касцёл у Польшчы меў нашмат большы аўтарытэт у грамадстве пры камуністычнай уладзе, калі з'яўляўся маральным прыпынішчам усіх тых, хто тадышняе палітычнае рэчаіснасці не акцэптаваў, чымсьці цяпер, калі адкрыта выйшаў на палітычную арэну і гэтую палітычную рэчаіснасць стараецца фармаваць. Праблема замацавання хрысціянскіх вартасцяў, у сродках масавага пераказу ці ў дзяржаўных законах, непазбежна цягне за сабою і праблему дзяржаўнага прымусу, без якога, як паказвае гісторыя, грамадства не можа праіснаваць у стабільнай і арганізаванай форме. А значыць — зноў трэба цэнзуру, чуйны апарат дзяржаўнага кантролю, паліцыю і турмы, каб дапільнаваць, акрамя ўсяго іншага, і хрысціянскія вартасці. Ці ад гэтага грамадства стане больш хрысціянскім? Усё-такі, хрысціяніну больш падыходзіць роля настаўніка, чымсьці пракурора.

**ЯН МАКСІМЮК**

---

**ЮРЫ БАЕНА**

# ДЭМАКРАТЫЯ І МЫ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

Нацыянальную тоеснасць малога дзіцяці павінна фарміраваць сям'я. Павінна... Працуючы настаўнікам у вялікай гарадской школе, даўно я зразумеў адну праўду: каб стаць свядомым беларусам, трэба напачатку быць чалавекам.

Літоўцы, украінцы, славакі і хіба ўжо немцы маюць у Польшчы свае нацыянальныя школы, мы — не. З усіх меншасцяў толькі ў беларусаў адбываецца рэгрэс навучання роднай мовы. У апусцелых вёсках беларускай дыялектнай прасторы школы найчасцей з'яўляюцца адзінымі ачагамі духоўнасці. Менавіта таму трэба патрабаваць ад школы, каб дух яе быў больш беларускі.

Праваслаўная царква — гэта ў нас самая вялікая арганізаваная форма захавання і росквіту нашай маралі, нацыянальнай свядомасці, гісторыі і культуры. Багаслужэнне правіцца на царкоўнаславянскай мове, аднолькава блізкай і роднай праваслаўным вернікам Беласточчыны, Беларусі і Украіны. Уводзячы ў цэрквах польскую мову, а за тым грыгарыянскі каляндар замест юліянскага, пры вядомых размерах і тэмпе нашай асіміляцыі, растрацім скарбы нацыянальнай духоўнасці, як евангельскі блудны сын багатую спадчыну свайго бацькі. Таму ад свядомай ролі духавенства і інтэлектуальнага патэнцыялу вернікаў, згуртаваных пры Царкве, ад усведамлення імі гістарычнай адказнасці ў сённяшні час хіба найбольш залежыць тое, каб не згасла полымя свечкі пад павевам сцюдзёнага ветру забыцця.

Гонарам кожнай нацыі ёсць інтэлігенцыя. Тысячы вясковых і маламястэчковых хлопцаў і дзяўчат у пасляваенны перыяд закончылі універсітэты, акадэміі, палітэхнікі і іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны і ўсходняга замежжа. Сталі яны вопытнымі лекарамі, настаўнікамі, інжынерамі, эканамістамі. Бяда аднак у тым, што гэтыя інтэлектуальныя сілы мала дзейсныя на ніве роднай культуры. „Нашыя" інтэлігенты вельмі часта нацыянальна інтэрферэнтныя, бясслоўныя, бяспамятныя, хворыя комплексам вясковага паходжання, нізкапаклонныя. Крайняя апалітычнасць, дэклараваная прадстаўнікамі розных пакаленняў, якую перш-наперш трэба разумець як абыякавасць у адносінах да беларушчыны, гэта не хітрасць, а толькі праява блізкарукасці і хіба здрады. Таму вялікая надзея ў адукаванай моладзі, вольнай ужо ад пачуцця нацыянальнай непаўнацэннасці. Толькі ці хопіць ёй стойкасці ў ахвярнай працы для беларускай справы.

На працягу многіх гадоў наша культура ў Беластоцкім краі жыла энтузіязмам дзеячоў. Шчырае дзякуй ім за гэта! Увесь арганізаваны рух здаўна аднак ёсць назначаны фаталізмам спрэчак і разладу, якія найчасцей б'юць у маладую змену. Напрыклад: непатрэбны канфлікт вакол „Нівы" — газеце ўсіх беларусаў у Польшчы і нашым першым „акне" на свет або пэўныя элементы антырэкламы ў цэнтральным тэлебачанні падчас выбарчай кампаніі ў Сейм — зразумела, не далі бляску для нашай меншасці. Сёння ў згушчанай атмасферы палітычнага часу і ўсеагульнага крызісу грамадскай працы сохне наш нацыянальны рух, задыхаецца творчая праца, а найпрыгажэйшыя „васілёчкі" беларускай культуры вянуць ад духоўнага холаду.

Ва ўсіх арганізацыях цяпер многа месца на вяршынях. Таму часта чутныя нараканні на бездапаможнасць грамадскіх дзеячаў нярэдка размінаецца з логікай.

Дзейсны беларускі палітычны рух робіцца таксама высілкам досыць вузкага кола людзей. Калі зменшыцца актыўнасць, дык увогуле не будзе ніякай палітычнай перспектывы.

Укараненне польскай традыцыі на Усходняй Сцяне (небеларуская назва нашай Малой Айчыны) найчасцей ажыццяўляецца за кошт выкаранення беларускай. З нашай культурай, цэлай спадчынай можа здарыцца тое, што сталася з яўрэйскай, толькі ў іншы, бо мірны, „эвалюцыйны" спосаб. А потым, у няўчас, нехта ў „Кур'еры" стане вельмі сумаваць, што нічога беларускага ўжо тут не ўбачыў ці не пачуў.

Ва ўмовах праваной дэмакратычнай дзяржавы і гістарычна-культурных рэаліяў гэтай зямлі хіба лагічнай думкай з'яўляецца тое, што каб аховай, тварэннем і замацоўваннем вартасцяў ды прапагандаваннем беларускай культуры займаліся не толькі нашыя грамадскія арганізацыі ці аматарскія калектывы (яны падаюць з-за недахопу інструктараў і грошай на ўборы, транспарт і г.д.), але і дамы культуры, бібліятэкі, музеі, вышэйшыя навучальныя ўстановы, навуковыя інстытуты, незалежна ад таго, людзі якой нацыянальнасці ці рэлігійнай канфесіі іх узначальваюць.

Наша меншасць так ужо слабая, так асіміляваная, што на працягу некалькіх найбліжэйшых гадоў — без парушэння ніводнага пункта ў дзяржаўных і міжнародных законах — амаль нябачным шляхам можа дайсці да поўнага спынення яе актыўнасці. Культурная пустыня падчас каштоўнай гаспадарчай трансфармацыі краіны — гэта ўжо глеба, няйначай як для антыкультуры, азвярэласці і насілля.

Здзяйсняючыеся тут і цяпер змены выклікаюць перспектыўныя і няўхільныя пераўтварэнні. Нам аднак нельга паддавацца схільнасцям да фаталістычнага бяздум'я, ні жыць паводле басяцкага дэвіза „Пасля нас хоць патоп". Ёсць рэальныя, гістарычнага значэння патрэбы арганізаванага мыслення над адварочваннем эфектаў умінання дзесяцігоддзямі грамадскай свядомасці, каб тое, што на працягу многіх гадоў можа каму-небудзь было заганай беластоцкай зямлі, стала яе важным козырам. Перш-наперш маладым, інтэлігентным, адукаваным і свядомым людзям трэба актыўна ўключыцца ў публічныя структуры рэгіёна, каб у сваёй дзейнасці выходзіць па-за шаблонныя схемы і прывычкі. Перад імі якраз зацяжная, карпатлівая праца, якая патрабуе паслядоўнасці і мэтанакіраванасці.

Сёння ўлады III Рэчыпаспалітай Польскай усім нацыянальным меншасцям дэкларуюць гатоўнасць дапамагаць і на іх культурную дзейнасць даюць пэўную фінансавую падтрымку. Першым доказам хай будзе высокаякасная папера, на якой выходзіць штотыднёвік „Ніва". Трэба спадзявацца, што далейшае развіццё дэмакратыі пойдзе ў жаданым кірунку так, каб тут ніхто і ніколі не карыстаўся Цэзаравай максімай „divide et impera" („дзялі і праў"), каб гэты куток Польшчы не быў пакінуты свайму лёсу, каб ніколі не кіснуў ён у соусе нацыяналізму і нянавісці. Вельмі хочацца яшчэ мець перакананасць у тым, што ўсе праблемы-пытанні вырашацца будуць згодна з дзяржаўнымі і еўрапейскімі стандартамі, а прадстаўнікі карэннага насельніцтва захаваюць поўны доступ да пасад, што не пагасне творчая ініцыятыва беларусаў, што будзе жыць і адраджацца наша своеасаблівая беларуская культура.



---

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# ЗАЗІМАК НАД ІСЛАЧЧУ

/2/

Дом творчасці "Іслач", што пад Ракавам Мінскай вобласці. Больш безгустоўнай ад яго архітэктуры я, здаецца, і не бачыў... Цяжка-пруская, накшталт цытадэлі; стаў тут кулямёты і доўга бараніся. Нехта дадумаўся ўтварыць унутранае падворышча, нагадваючае шпацырнік для вязняў.

Цудная даліна самое Іслачы! Рэчка безнадзейна зглумленая, відаць, меліяратарамі. Без водарасцяў і рыб, хаця б калючак. Саснова-ялінавае ваколле выразна маладое. Раніцай упаткаў унізе за абрывам паўконскія сляды лася. Не ўсё страчана.

Спачатку перашкаджае беларускі час, на гадзіну дапераду. Але, найдакучлівей польскі комплекс у абслугоўваючым персанале. Усё бабы, і амаль прымушаюць цябе быць палякам. Я злаваўся. Няхутка сцяміў, што яны не адрозніваюць беларускай мовы ад ляхіцкай. Маскалькі тутэйшага паходжання.

Рэспубліка Беларусь толькі ў газетах і ў радыё, пакуль што. На правінцыі яшчэ Беларуская ССР.

У ракаўскай пошце натоўпік бабуль па рэнты. Савецкая замілаванасць да "бумаг" робіць іх бездапаможнымі. Маладзіца за акенцам кіпіць. З яе добры, усё ж, чалавек. Працуе яна за траіх: выплаты, пісьмы, пачкі, тэлефоны. І халадэча неправўдападобна запушчанага будынка. Зазімак.

З Ракава аўтобус даязджае да вялікагарадской рысы Мінска блізу праз паўгадзіны ўсяго. Таму, мабыць, не ў кожны дзень прадаюць у мястэчку хлеб... Пра далікатэсы і не пытай. Стаяць слоікі кампотаў, шарэнгі бутэлек з воцатам; павісаюць кавальцы саланіны. Трохі як у маіх Крынках восемдзесят першага.

Угледзеў я адну хату з выявай Пагоні на варотах і тры - з пяцікутнымі зоркамі на вуглах. Герб Любічаў, прыбіты там побач дзяржаўнага, сказаў мне многае. А вось пра тую чырвоншчыну даведаўся не адразу: ушаноўвалі так некалі сем'і загінуўшых у Афганістане.

У газетным кіёску пра "Літаратуру і мастацтва" чуць не чувалі. Не купляюць людкове і іншых, акрамя паштовак і расейскіх голапаненчыных календароў. Друкаванае слова ўелася ім хамаватым махлярствам. Нарэшце свабода, няма прымусу выпісваць бальшавіцкую лухту. Старыя памятаюць даваенную Польшчу; канчалася яна за палеткамі ў гаі.

У якіх двухстах метрах ад "Іслачы" гудзіць круглыя суткі шаша міжнароднага значэння з Гродна ў Мінск. Гусцейшы паток машынаў - у глыб тэрыторыі. Шмат "цІраў" з польскімі і англійскімі надпісамі. Час ад часу шастаюць "форды". Бывае, з азнакоўкай дыпламатычнага корпуса. Імчаць, па-шчупачыныму абганяюць разлезлае постсавецкае самахадоўе. Уяўляю сабе праклёны зайздрасці ў шафярнякоў...

Маё з Таняй вяртанне нязменна сустракае вахцёр ля ўваходных дзвярэй.

- Чаму няма ў вашых крамах яблык?! - падкусвае мяне чорт запытацца.

- А на што яны пану? - насцярожваецца службовец.

- Як гэта - нашто? Вітаміны!

- Я па тых вітамінах восенню ў сваім садку па самыя костачкі ног таптаўся...

- Шкада, таварыш. Цяпер па семдзесят рускіх рублёў* за кілё бралі б!

- Ага, хай другія набяруцца...

- А вы?

- Для мяне даволі грошай, што на службе даюць.

- Мала.

- Мала, але не наробішся вельмі. Вы пане, на капіталістаў нас не перавыхаваеце. Мы ўсе ўжо ўвыклі жыць бедна, але лёгка, от!

*/Працяг будзе/*

---

* Рускі рубель у дзесяць разоў таннейшы за беларускі.

## ГЭЙ КАЛЯДА, КАЛЯДА!

У грамадскім жыцці вёскі важную ролю выконвалі і выконваюць народныя звычаі, звязаныя са святкаваннем гадавых свят. Яны ў манатоннае жыццё вясковай грамадскасці ўводзілі некаторую разнастайнасць, спалучаючы ў сабе, акрамя элементаў магіі, элементы гульняў і развесялення. Магічнае значэнне дзе-якіх звычаяў знікла, але захавалася форма супольнай гульні.

Цыкл каляндарных абрадаў пачынаюць звычаі, звязаныя з калядньмі святамі. У вёсцы гэта час асабліва рухлівы і багаты.

Да найбольш жывучых па сённяшні дзень і найбольш папулярных звычаяў у вёсках Беластоцкага ваяводства адносіцца хаджэнне са звяздой. Ён асабліва пашыраны сярод праваслаўнага насельніцтва ва ўсходняй частцы нашага ваяводства. Тут хадзілі са звяздой на першы дзень Каляд і ў наступаючую па ім ноч. Калядавалі старэйшыя і дзеці, наведвалі са звяздою хаты, часта ў суправаджэнні гарманіста. Часам была гэта групка моладзі - дзяўчат і хлопцаў, якія на наступны дзень за закалядаваныя грошы арганізоўвалі сабе супольную забаву.

Звёзды рабілі самі каляднікі. Шкілетам яе, звычайна, была бечаўка /абадок/ старога сіта. Да яго прымацоўвалі палачкі, збівалі або звязвалі іх з сабой і такім чынам узнікалі рогі звязды. Іх потым абклейвалі каляровай, часта васкаванай або насычанай льняным алеем, паперай. Дзякуючы гэтаму звязда была празрыстай. Унутры яе адпаведна прымацоўвалі адну або дзве свечкі. Мастацкая вартасць звязды залежала ад ліку рагоў і вынаходлівасці каляднікаў ва ўпрыгожанні яе бібулкай ці каляровай паперай.

Дваццаць гадоў таму назад у вёсцы Ахрымы ды ў суседніх вёсках, менавіта ў Ляўкове і Капітаншчыне, хадзілі са звяздой, у якой было 18 рагоў. Яна была так сканструявана, што пры абароце яе рогі, складзеныя ў два рады, беглі ў процілеглых напрамках.

У стараляўкоўскай парафіі сустракаўся таксама іншы тып звязды з так званым "небам". У ёй было восем рагоў, над якімі прасціраўся лук у форме неба, абклеены блакітнай бібулкай і закончаны ліхтарыкамі.

* * *

Зараз я хацеў бы паінфармаваць аб тым, як закончыўся сёлетні ваяводскі агляд калядных калектываў, якія дзейнічаюць на Беласточчыне. На працягу двух дзён на сцэне выступіла 56 ансамбляў і трыццаць салістаў /разам 720 выканаўцаў/. Быў гэта вялікі культурны марафон. Па-за конкурсам палоннікі фальклору гарачымі апладысментамі ўзнагароджвалі выступленні двух замежных абрадных груп: "Дзіва" з Менска /Рэспубліка Беларусь/ і LA VALLETA з Сіцыліі - у Гмінным асяродку культуры ў Нарве і ў Доме культуры ў Чорнай-Беластоцкай.

На Міжваяводскі агляд калядных калектываў, які адбудзецца ў канцы студзеня 1994 года - у гэты раз у Беластоку, журы вылучыла між іншым **"Арэшкі" з Арэшкава** /Гайнаўская гміна/ і **"Чыжаваня" з Чыжоў**. Гэтыя ансамблі выступілі з традыцыйнай звяздой - эфектным элементам калядных абрадаў. Віншуем!

**ЯНКА ДАРОЖНЫ**

## ГІМНАСТЫКА — ГЭТА МАЁ ЖЫЦЦЁ

„Ніва" ад 10 студзеня г.г. змясціла мой допіс „Перыпетыі алімпійца"; да раней напісанага хачу цяпер яшчэ крышку дадаць.

Віталій Шчэрба нарадзіўся 13 студзеня 1972 г. у Менску. Важыць ён 63 кг пры росце 168 см. Бацькі яго займаліся гімнастыкай і прывілі яму любоў да гэтага віду спорту не толькі ў спартыўнай зале але і ў шырэйшым плане: ажаніўся ён таксама з гімнасткай, Ірынай. Газеты пісалі, што ў Барселоне завяваў ён шэсць залатых медалёў, больш чым уся зборная Вялікабрытаніі. Беларус Віталій Шчэрба ўвайшоў у элітарную групу мультымедалістаў такіх як Нурмі, Оўэнс ці Спіц. Ніжэй прыводжу фрагменты інтэрв'ю, якое В. Шчэрба даў былому гімнастычнаму чэмпіёну свету, сёння журналісту магазіна „Kicker" — Эбэрхарду Гінгеру:

*— Віталій, як змянілася тваё жыццё пасля алімпійскага поспеху?*

— Найбольш змяніліся фінансавыя ўмовы. Калі яшчэ толькі вылучылі мяне ў савецкую зборную, мае ганарары былі сімвалічныя. Усе грошы забірала федэрацыя гімнастыкі. Сёння сам езджу на ўсе спаборніцтвы — ніхто мяне не дэлегуе. Гэта так, як бы я сам быў федэрацыяй: усе грошы, якія я зарабляю, належаць мне. Не аддаю нікому ні капейкі; такое становішча мяне задавальняе.

*— Цяпер ты папулярны чалавек...*

— Шчыра кажучы, яшчэ перажываю свой поспех; крыху мяне гэта бянтэжыць. Прымаю ўдзел у розных паказах, езджу з краіны ў краіну. Не маю часу нават на адпачынак — цэлы час заняты.

*— А што на гэта жонка Ірына?*

— Мае алімпійскія поспехі не былі для яе абыякавыя — цешылася з іх, аднак не прыдавала ім асаблівага значэння. Для Ірыны важнейшым ад маіх поспехаў з'яўляюся я сам, як чалавек. А вось, напрыклад, мая мама перажывае гэта зусім інакш: яна здаецца быць самай шчаслівай пад сонцам. А гэта таму, што, па-першае, яе сын завяваў найдаражэйшыя трафеі і праславіў сваю беларускую нацыю ва ўсім свеце і, па-другое, яна таксама стала папулярнай — давала інтэрв'ю па радыё, тэлебачанні і ў газетах. Яна з радасцю аглядае мае здымкі ў газетах — гэта яе найшчаслівейшыя хвіліны.

*— Ты, пэўна, вельмі папулярны ў родным Менску?*

— Думаю, што ў Менску ведае мяне менш людзей чым за мяжой: у Амерыцы, Нямеччыне ці Іспаніі. Хто аднак хоча мяне ведаць, той мяне і ведае. Асабліва добра пазнаёміўся я з міліцыяй пасля таго, як абакралі маю кватэру.

*— Ці гэта праўда, што жыццё апрыкрае табе вашая мафія?*

— Міліцыя трапіла на след мафіі, якая абакрала алімпійскую чэмпіёнку Марыну Лобач. Здаецца мне, што гэтая група спецыяльна ўпадабала сабе алімпійскіх чэмпіёнаў; у Менску абакралі ўжо шэсць залатых медалістаў з Барселоны.

*— Што табе ўкралі?*

— Узломшчыкі дакладна перагрэслі маю кватэру. Забралі 18 тысяч долараў і 6 тысяч швейцарскіх франкаў. Апрача гэтага відэамагнітафон, спартыўны абутак, фен для валасоў — адным словам усё, што толькі ўдалося.

*— Як хочаш забяспечыцца?*

— Узяў дазвол на пісталет і без яго цяпер не выходжу з дому.

*— Адкуль у людзей столькі зайздрасці і прагнасці?*

— Гэта простая справа: мая матэрыяльная сітуацыя намнога лепшая, чым большасці маіх землякоў. Гэта выклікае зайздрасць і правакуе да пакражы ці хаця выбівання шыбаў у маім аўтамабілі. Я ніколі ў жыцці не быў зайздросны. Зрэшты, праявы зайздрасці назіраю толькі ў сваёй краіне; за мяжой ёсць інакш — там жыццё лягчэйшае, а я ж не зарабляю так многа.

*— Ці не адчуваеш, што арганізатары спаборніцтваў выкарыстоўваюць цябе: за выступленне ты атрымоўваеш усяго 5 тысяч марак, а такі Карл Луіс можа разлічваць на 200 тысяч?*

— Не адчуваю сябе пакрыўджаным. Магчыма, што калі б я быў амерыканцам, атрымоўваў бы намнога больш. Апрача гэтага лёгкая атлетыка больш папулярная за гімнастыку. Думаю, што атрымоўваю зусім нармальныя ганарары, хаця яны для Карла Луіса пэўна смешна малыя.

*— Якія прапановы ты атрымоўваеш з-за мяжы?*

— Прапануюць мне старты ў Італіі, Нямеччыне, Іспаніі і ЗША. Задумоўваюся, якую з гэтых прапаноў выбраць: дзе можна будзе зарабіць найбольш грошай. Апрача гэтага неўзабаве павялічыцца нам сям'я; спадзяемся, што дзіця народзіцца, калі будзем у Амерыцы: будзе яно тады магло атрымаць амерыканскае грамадзянства і, магчыма, гэта будзе яму найлепшы падарунак ад бацькоў.

*— Ці ты сам хацеў бы жыць на Захадзе?*

— Я часта сустракаюся з гэтым пытаннем, але адназначнага адказу пакуль што ў мяне няма. Часамі мне моцна хочацца дадому, у Беларусь, часамі бывае зусім наадварот. Час пакажа, што з гэтага выйдзе.

*— Чым будзеш займацца ў будучыні?*

— Стану трэнерам: хачу рабіць тое, што добра ведаю. Гімнастыка — гэта цэлае маё жыццё.

Апрацаваў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## З'ЕЗД БЕЛАРУСКІХ ГІСТОРЫКАЎ

У апошніх гадах можна сустрэць погляды, што Беларусь — гэта нейкая інтрыга, а сапраўды такога народа і дзяржавы не было і няма. Погляды гэтыя паяўляюцца, калі Менск стаў сталіцай незалежнай Рэспублікі. Хаця думкі аб нябыце Беларусі сярод еўрапейскіх дзяржаў не маюць нічога супольнага з гістарычнымі фактамі, часта можна іх сустрэць нават у навуковых распрацоўках. Нярэдка нашы суседзі пішуць аб Беларусі, як аб сваіх „усходніх крэсах", „Заходнім краі", часцы Жмудзі ці Маларасіі. Выдатных сыноў Белай Русі яны ўшаноўваюць як польскіх, рускіх, украінскіх ці літоўскіх нацыянальных герояў. Так ёсць з асобамі Сімяона Полацкага, Тадэўша Касцюшкі, родам Тышкевічаў ці Астрожскіх. Можна такое рабіць таму, што Беларусь не мае сваіх сапраўдных гісторыкаў, якія прэзэнтавалі б багацце мінулага свайго народа. Хаця апошнім часам шмат добрага зроблена ў гэтым напрамку, аднак у Беларусі надалей дамінуе абэцэдарчына. Вельмі трывожыць факт, што прыніжанасць у прэзентацыі сваёй гісторыі выступае не толькі ў старэйшым пакаленні даследчыкаў, але і ў маладых. Нават у іх можна сустрэць нігілізм у адносінах да сваёй гісторыі. На пачатку лютага 1993 года адбыўся здаўна чаканы З'езд беларускіх гісторыкаў. Ці будзе ён крокам наперад, ці надалей нашы гісторыкі будуць захапляцца ўплывам культуры суседніх народаў на беларускую тоеснасць? Удзельнікам гістарычнага кангрэсу я запрэзэнтаваў свае рэфлексіі аб беларуска-польскіх адносінах. Мабыць, памогуць яны інакш глянуць на мінулае беларускага народа — бо ён мае гісторыю не менш багатую, чым яго суседзі.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**



## НАШЫ КАРАНІ

### XLVIII. ПЕРАДЫШКА

Намаганні караля Казіміра Ягелончыка і яго ўрада прымусіць праваслаўных у Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/ і Каралеўстве Польскім, каб яны прынялі унію і падпарадкаваліся ўладзе папы рымскага, прынеслі адваротны вынік. Праваслаўныя з усё нарастаючай адчужанасцю і непрыхільнасцю ставіліся да уніяцтва і каталіцызму ды шчыльней гуртаваліся пры сваёй Царкве. Праваслаўныя князі і баяры разам са сваімі падданымі ўсё часцей пераходзілі пад уладу Вялікага княства Маскоўскага. Такім чынам канфлікт паміж каралеўскай уладай, падпарадкаванай каталіцкаму Касцёлу і праваслаўнай грамадскасцю нарастаў і паглыбляўся ды пагражаў выліцца ў адкрытую барацьбу. Гэтае супрацьстаянне прывяло да таго, што ўзнікла патаемная змова выдатных старажытных праваслаўных беларускіх княжацкіх родаў Алелькавічаў, Гальшанскіх, Бельскіх і іншых. Змоўшчыкі мелі намер пазбавіць вялікакняскае ўлады фанатычнага католіка і ахвярнага выразніка інтарэсаў Каралеўства Польскага Казіміра Ягелончыка і яго нашчадкаў і адбудаваць суверэнную, незалежную Беларускую дзяржаву. У горшым выпадку змоўшчыкі спадзяваліся адарваць усходнюю палову беларускіх зямель па раку Бярэзіну і ўтварыць на ёй беларускае княства пад апекай Вялікага княства Маскоўскага. На жаль, змова была выкрыта /мабыць, Іванам Хадкевічам/ і галоўным змоўшчыкам, князям Міхаілу Алелькавічу і Юрыю Гальшанскаму давялося пакласці свае галовы на пласе пад катаўскі тапор. Князю Фёдару Бельскаму пры дапамозе, відаць, родзіча /таго ж Івана Хадкевіча/ удалося ўцячы ў Маскву. Пасыпаліся галовы баяраў, запоўніліся склепы крэпасцяў закутымі ў ланцугі западознымі ў змове. Замаху ўдалося пазбегчы, але рух супраціву не патух, ён тліўся надалей і пагражаў выбухам рэлігійнай вайны.

Кароль і ягоныя прыбліжаныя, у тым і папскія легаты-паслы, урэшце зразумелі, што далейшае акаталічванне насельніцтва і праследаванне Праваслаўя цалкам расхістае асновы дзяржавы, і націск на праваслаўных крыху зменшыўся. Відаць гэта было і ў тым, што пасля смерці епіскапа Місаіла кароль дазволіў праваслаўнай грамадскасці выбраць сабе кандыдата ў мітрапаліта і пры тым не прымушаў яго ні яўна, ні патаемна перайсці ва унію. Сабор праваслаўнага духавенства і свецкіх дзеячоў у 1481 г. выбраў на кандадата ў мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі архіепіскапа полацкага Сімяона. Кароль прыхільна аднёсся да гэтага выбару і таксама паставіў свой подпіс пад зваротам сабора да канстанцінопальскага патрыярха пра блаславенне для новавыбранага мітрапаліта. Неўзабаве ў Навагрудак /сталіцу мітраполіі/ прыбылі два экзархі з патрыяршым бласлаўляльным лістом і ў саслужэнні з мясцовымі епіскапамі інтранізавалі мітрапаліта Сімяона. Урачыстасць адбылася ў старажытным /пабудаваным у палове XII стагоддзя/ навагрудскім Свята-Барыса-Глебскім саборы.

Пасля гэтых урачыстасцяў канстанцінопальскаму патрыярху і іншым іерархам Праваслаўнай Царквы ў тагачасным свеце стала больш дакладна вядома трагічнае становішча Праваслаўя ў Казіміравай дзяржаве. Што ж, Ягелончык пад націскам папы рымскага імкнуўся выкарыстаць трагічнае становішча праваслаўных у тагачасным свеце, бо на Праваслаўную Царкву наступалі не толькі з захаду, але і з усходу. Як вядома, да таго часу мусульманская Турэцкая імперыя захапіла праваслаўную Малую Азію і апанавала ўсе Балканы. Яе шчупальцы пачалі працягвацца і да ўкраінскіх і беларускіх зямель. На іх раз-пораз нападалі залежныя ад Турцыі крымскія татары. Іх нашэсці былі знішчальнымі: яны рабавалі ўсё спрытна, людзей забівалі або бралі ў няволю, на месцы гарадоў і вёсак пакідалі ўсланыя трупамі папялішчы.

Гэтак у 1482 г. крымскі хан Менглі-гірэй напаў на Кіеўшчыну, абрабаваў і датла спаліў Кіеў і навакольныя паселішчы, дачыста абдзёр і абрабаваў Кіева-Пячэрскую лаўру, Сафійскі сабор і іншыя манастыры і храмы, пазбавіў жыцця тысячы насельніцтва, яшчэ больш пагнаў у няволю, каб прадаць на рынак Турэцкай імперыі. Тысячы дзяцей і старых схаваліся ад наезнікаў у пячорах пад горадам, але ворагі выкрылі іх і задушылі курадымам.

Тады, між іншым, у няволю трапілі архімандрыт Кіева-Пячэрскай лаўры Феадосій Вайкаловіч з групай манахаў і ваявода кіеўскі Іван Хадкевіч з сям'ёю. *"В лето Божого нароженя 1482. На Уведене Пресвятое Богородицы взяли татарове Киев и воеводу киевского пана Ивана Ходкевича и с панею, и з сыном Александром взяли, и пусто вчинивши, замок сожъгли, и сами пошли проч"*, - гэтакімі словамі аднатаваў гэтую падзею аўтар "Летапісу Рачынскага".

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 397

*МІРА ЛУКША*

**ЖАНЧЫНА**

жанчына

з яе ран
нараджаюцца
ранак і дзень
і ноч раны гоіць
і раніць

жанчыну
нараджаюць
ранак і дзень
і ў ноч адыходзяць
разам

* * *

горкая травіца
сонніца-быліца
да сцежкі нахіляецца
ў пояс пакланяецца
просіць прытуліцца
расы з лістка напіцца
а хто дакранецца
суму набярэцца
і захварэе
і занямее
і затравее
і скажа слова
зялёнай мовай

**З цыкла "Нашы сёла"**

*ЗОСЯ САЧКО*

* * *

дэ буольш сонця
гуліцёю біжыт
і в пусты окна стукае
а в домах здаецьця шчэ жыті
заслуонкі туолько накрохмаліті
пэрэкрунуті ключ

* * *

на насіэне - зэмля ждэ
вінкам бы цьвісті в горуодцях
куолько соку в старуой бэрозі
- напоіт пуў мэртвого сэла
пташкі прылетят
наладят гніэзда
тіэні усядуцьця
на лавочках
в само полудне
- розкінут карты

*БАРЫС РУСКО*

**ПРАГА**

Больш за ўсё прагну гаючай хвіліны.
Увечар у шалашы забытым
Запалю свечку з куфра прабабкі
і ўголас паэтаў персідскіх чытацьму.

Ноччу, ля кастра, пазбіраю
спелы ўраджай неба,
а плод найсакавіты
ўлажу ў далоню душы кемнай.

Світанак сустрэну ў спляценні
галін старога дуба
вачыма на мякка зарысаваны твар
спячай каралеўны.

У гаючай хвіліне даволі месца
для маёй ластаўкі.

**ЗАЧАРАВАННЕ**

Колас, што датыкаецца да аголеных грудзей,
і кветка расквітнелая блакітам у зрэнцы,

Вецер,
што шалясціць чаротам валасоў,
і кропля, што падае з вейкаў воблака
на далоні
хмеляць маю душу аж да мяжы крыку.

**СМЕРЦЬ ПТУШКІ**

Крылы апалыя на зямлю
абмятаюць ціш.
Вочы ў зачыненых павеках
прыкмячаюць ясноту.
Вось і парог
цераз які пераносяць песню
барды ценяў.
У полі без пахаў
адпасаецца іскрэннем птушаня.

*БАЗЫЛЬ МІХНІК*

**УСТАНЬМА З КАЛЕНЯЎ!**

*Маладушнасць ляжыць,*
*калі можаш падняцца*
*/лацінскае/*

Устаньма з каленяў, сыны Беларусі!
Бо з рабскай пакорай нам досыць цярпець
Нядолю, няволю ды здзекі прымусу,
Паўзучае гора - уранаву смерць!

Падымемся, братцы! І скажам ім: "Годзе!
Зямлю, нашу маці знішчаць, руйнаваць!"
Што нам абяцалі ў сямнаццатым годзе,
Пара наступіла ад баеў забраць!

Прыгожыя дочкі! Вы - слава! Сумленне!
І гонар Радзімы з прадвеку-вякоў!
Няўжо не баляць Вам, не ныюць калені?!
Ці ў Вас не бруіцца Рагнедзіна кроў?!

Дружней, мае родныя! Станем сцяною
Усе, як адзін, як Вялікі Народ!
За Волю, за Шчасце! Дружней талакою
Памкнемся, пакрочым у слаўны паход!

На жэглішчы Волі ўжо тлеюць ахвяры
За наш неразбуджаны Край.
За матчыну мову! За светлыя мары!
Народ, падымайся! Ўставай!

Апошняй імперы падаюць путы,
Бастылія ўжо пад аблогам.
Паўстанем, браточкі за нашы пакуты,
Атруту Чарнобыля!
З Богам!

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## КРУЧОК

Была магчымасць абдурыць аднаго чалавека. Сядзелі яны горбаю і здзіўляліся, чаму гэта раней не дадумаліся. Галавач схопліваўся з табурэткі, хадзіў з кута ў кут ажно падлога скрыпацела пад ім.

- Ай-ай, - круціўся, бы ад зубнога болю. - Ён жа, той, моцна хоча зарабіць, чуеце?!

- Ага, пакажы мне такога, які не хацеў бы, - злаваўся Вашай, не даючы рады выперадзіць думку Галавача. Пырнуў відэльцам у марынаваны баравічок і грыб адскочыў, бы спуджаная жабка.

- Аціхні! Хай кажа, - Басалыга зноў паналіваў чаркі; яго гэта пілі паўлітроўку.

Галавачыска важна ўсеўся за сталом насупраць іх, пальцамі выняў са слоіка квашаны агурок і, хрумстаючы кісласць з асалодаю даўно выпіваючага, маўчаў у чаканні ўвагі. У шчылінках яго прыплюшчаных вачэй пабліскалі іскаркі хітрасці, трохі так, як у замужняй палятухі, што заглядзелася ў стройнага ды й пры грашах мужчыну.

- Хлопцы, - закурыў папяросу, незвычайна тоўстую і з попахам свежа накрышанай махоркі. - Слухай, Басалыга, і ты, Вашай: ці бачылі вы галоднага, якому не смакуе кілбаса? Чырвоная ад чыстага мяса, з гарчыцаю і часнаком, адвараная ў крупніку з бульбаю...

- Перастань! - енкнуў Вашай; закашляўся, папярхнуўшыся слінаю.

- Ну, кідай байкі, - чыхануў Басалыга, мала не пакаціўшыся, каб не тыя, растапыраныя ў яго, ногі.

- Гэты фраер, - так ён, Галавач, пра таго аднаго чалавека, - ёсць далікацік і мы яго на той інтэлігентнасці возьмем ды пакоўзаем... Падчэпім на кручок ідэйнасці, ай, патрыятызму, тады яму не будзе як пярэчыць нашай прапанове, - выслухайце мяне ўважліва, хамуты! Ён, зрэшты, падумае, што, калі такія морды гавораць высокім тонам, маюць на прыкмеце надта ж нямалыя грошыкі, настолькі немаленечкія, што аж пакультурнелі ад іх, і яму гойна не пашкадуюць... Цяміце? А мы якраз і не тое зробім палатанаму пану, ай, усянюткія сабе ў кішэні ссыплем, ай-ай!

- Задаткам якім прынадзіць вартавала б, - памкнуўся Басалыга прыраўняцца Галавачу.

- Нашто? - Галавач раз'ехаўся зняважлівым смехам, пакуль не пачуў, што ўторыць яму Вашай. - Памыляешся, ай, Басалыга: жаль застаўся б у яго да нас, а так выканае ён ролю без крыўды. Яму ж пакідаем радасць служыць Айчыне, ай-ай, сабе рыхтуючы салодкую ганьбу прыбагацець на ёй...

- Як тая кабыла пад жарабцом, - ляпнуў Вашай.

Галавач лінуў яму гарэлкаю па слепняках. Прыгаварыў:

- Вашай ты, Вашай: вашаём і здохнеш...

З абмяркоўкаю плана паспелі да вестэрна ў тэлевізары.

## АДПОМСТА ІВОНЫ

Калі я ўжо хадзіў у кавалерскіх падшпарках, была ў Плянтанскім завулку дзяўчына, якую ахвотнікі ў нарачоныя ёй называлі Івонаю, хоць мела яна імя іншае, але паспалітае. Цяжка - нават цяпер - сказаць, чаму хлопцы набівалі сабе морды за тую Івону; рабілі гэта з юшлівым лёскатам на музыках у - апустошанай за вайну - жыдоўскай бажніцы /найзаядла лупіў, аднак жа, Пекны Лёнік, гарманіст ды безграшовы свістун/. Івоніну пароду можна вызначыць як скрыжаванне заморанай цыганкі з гонкай шляхцянкаю: смольная галава на дастойнай зграбноце. Містыкі жаночага цела прыдаваў ёй нейкі строй гімназісткі з прэтэнзіямі на пачынаючую даму; магчыма, падгледжаны ёю ў багатырак, што паехалі былі вучыцца ў павятовым ліцэі.

Яшчэ прыходзіла ўночы польская банда ад Казловага Луга, але час спакайнеў, людзі пачалі дставаць пісьмы са свету. Напісала і цётка Івоны, меншая сястра яе маткі: вывезеная немцамі на прымусовыя работы, трапіла пад амерыканскую акупацыю, выйшла тамака замуж за якогасьці лупатага чарняка, з якім заперлася ў Венесуэлу, у места Каракас... Папаўзлі чуткі, што ў канверце поўна хрумсцела долараў, і гэта згубіла Івону. Казлоўскія грабежнікі панадзіліся на іх. Не знайшоўшы дарагіх грошай, пабралі з хлява жывіну, надалі ўкаплех матцы з бацькам, а чарнавокую дачку пакачалі тыя жарабцы, завалокшы яе за касы ў камору на мяшкі /магло быць і горш, маглі ж спаліць гаспадарку/. Дзяўчына шчаслівая не зацяжарыла ад вашаеў, але ёй ужо не было месца тут, засмяялі б чорнай масці завіднікі. Уся радзіна, распрадаўшыся, выправіла Івону ў цётчыную Амерыку.

След па ёй прастыў; палітыка ў Польшчы ўзялася не такая.

Прамінула ад таго налёту многа летаў. Самотна паўміралі не старыя бацькі. У свеце, нарэшце, назмянялася і, аднойчы, з'явілася на Плянтанскай блішчастая чужаземніца, у якой памятныя бабы пазналі Івону. Заказала яна майстроў, каб выхарашылі хатку; доўгае аўта - з пазалочанымі клямкамі - паставіла ў стадолу Пекнага Лёніка, палінелага разводніка. З пошты запрывозілі ёй пачкі. Івона ні з кім не сеймікавала. Званіла толькі крыклівапа ўведзеным у гэту, бацькаву, кучу тэлефоне; ніхто ў завулку не змог разабрацца ў ейным, заморскім, гергетанні, хоць усякіх сюды ліха насіла, калісьці то і французаў, і шведаў даўней...

Раз выехала рэйсавым аўтобусам у горад ды так і не паказалася болей. Над раннем тады згарэў Казлоў Луг; казалі потым пажарнікі - агонь шугануў раптоўна, казлоўцы паспелі адно павыбягаць хто ў чым у поле, так давала гуллівым жарам ад будынкаў! Двух гаспадароў і прымак павесіліся, дзіўна папарадку, у пакінутай адрыне, што на водшыбе вёскі. Чамусьці ўсе ў святочных касцюмах...

Прапаў кудысьці і Пекны Лёнік /аўта прапіў пасля швагер/. Нядаўна, аднак, нехта з валачашчых бачыў яго, як ішоў ён з Івонаю ў беларускую царкву ў Саўт-Рывэры.

# НА АСТРАВАХ АБАРМОТАХ

Прывычка - гэта другая натура чалавека.

Прывыкаем мы да ўсяго, з чым нам прыходзіцца суіснаваць нейкі час. Прывыкаем да кватэры, да суседзяў, да работы - адным словам да асяроддзя. Прывыкаем да таго, што нам падабаецца і да таго, што не падабаецца; прывыкаем да карыснага і прывыкаем да шкоднага. Калі прывыкнем да таго, што падабаецца або да таго, што карыснае - бяды ў гэтым няма. Але калі сітуацыя адваротная, дзе прывыклі мы да нечага нямілага або шкоднага - як быць? Натуральным адказам здаецца "адвыкнуць". Але як адвыкнуць ад нечага, што нам не пад сілу, дзе перашкодай з'яўляюцца аб'ектыўныя, незалежныя ад нас, абставіны. Бывае і так, што ніякія аб'ектыўныя прычыны чалавеку не перашкаджаюць, ён рад быў бы адвыкнуць ад нечага некарыснага, але калі ён толькі адхіліцца ад сваёй прывычкі, яна, як магніт, прыцягае яго да сябе назад. Так бывае з залежнасцю: калі чалавек узалежніцца ад нікаціну, алкаголю, марфіну ці іншых наркотыкаў - адвыкнуць ад іх вельмі цяжка. Розныя ёсць прычыны нападання чалавека ў залежнасць, напрыклад ў алкагалізм. Пад уплывам некарыснай сямейнай сітуацыі, націску сяброў ці ўмоў на рабоце алкаголь можа стацца вельмі выгаднай формай уцёкаў ад клопатаў. У некарыснай стрэсавай сітуацыі алкаголь змяняе псіхічнае напружэнне і заахвочвае да дзеяння. На пацвяржэнне гэтага тэзіса прывяду прыклад эксперымента, які вучоныя правялі на катах. Падчас даследаванняў вучылі яны катоў складаных паводзін, за выпаўненне якіх каты атрымоўвалі ежу. Праз нейкі час ежу падмянілі электрашокам: гэты адмоўны стымул цалкам затармазіў актыўнасць жывёл. Пасля гэтага катам пачалі падаваць маленькія колькасці алкаголю, што выклікала іх далейшыя цікавыя паводзіны: яны зноў пачыналі выконваць вывучаную раней дзейнасць. Да таго ж вучоныя падмецілі, што пасля серыі электрашокаў, значыць у цяжкай стрэсавай сітуацыі, каты выбіралі малако, у якім было 5 працэнтаў алкаголю, не кранаючы малака чыстага; у нармальных абставінах каты вялі сябе адваротна. Хаця паводзіны людзей болей складаныя, чым паводзіны жывёл, усё-такі алкаголь стымулюе іх дзейнасць і спраўляе, што псіхічнае напружанне выкліканае стрэсам, меншае. Чалавеку становіцца лягчэй. Таксама становіцца лягчэй і ад іншых наркотыкаў, якія, так як і алкаголь, неабыякавыя для нашага здароўя.

Ёсць яшчэ адзін своеасаблівы наркотык, папрабаваўшы які некаторыя людзі не ў змозе вырвацца з яго кіпцюроў. Ён не звязаны з прыманнем нейкіх хімічных злучэнняў і выкліканымі гэтым прыняццём радаснымі галюцынацыямі. "Наркотык" гэты, нападабенства хімічных рэчываў таксама выклікае добры насторой і для дасягнення гэтага стану таксама нешта прымаецца: можа быць гэта непусты канверт, а ў найгоршым выпадку толькі ветлівы паклон. Наркотыкам гэтым з'яўляецца ўлада. Хворыя гэтай слабасцю па-рознаму ўздзейнічаюць на сваё асяроддзе: адны робяць нешта карыснае, другія - шкодзяць. З першымі бяды няма; праблемы паўстаюць з другімі. Праблемы гэтыя на шырокім свеце вырашаюцца рознымі спосабамі: залежыць гэта ад, агульна гаворачы, культуры грамадства. У дэмакратычных краінах, культура якіх пераважна выводзіцца ад грэцка-лацінскай старажытнай культуры, хворых уладай лечыць існуючая там сістэма выбараў. Некампетэнтнага выбранніка адклікаюць адразу або выбаршчыкі, або палітычная партыя, якая такога "хворага" рэкамендавала. Партыя адклікае падтрымку, каб не псаваць сваю рэпутацыю і яе стаўленнік воляй-няволяй мусіць адвыкнуць ад прыемнай пасады. А як выглядала ці выглядае гэтая справа ў краінах Усходу, культура якога выводзіцца з візантыйскай і мангольскай традыцыі? Пра гэта мы, здаецца, добра ведаем. Усё-такі хачу некалькі слоў і пра гэтую з'яву напісаць. Улада ў нас пажыццёвая і наогул з прыцягам часу не меншае. Здараецца часам, што некага прагоняць ад "карыта", але бывае гэта вельмі рэдка і адносіцца толькі да асоб, якія не вельмі радуюцца сваёй пасадай. Пэўным парадоксам нашага палітычнага жыцця з'яўляецца тое, што ўладароў выбіраюць шляхам тайных і дэмакратычных выбараў, але ўжо перад імі менш-больш вядома, хто будзе выбраны. У нашай частцы свету ўлада не лічыцца хваробай а, хутчэй, наадварот - з'яўляецца яна мерай нейкіх, найчасцей сакрэтных, заслуг. Усё ж такі лячэнне ад гэтай знямогі ў нашых ваколіцах практыкуецца; яно вельмі арыгінальнае, як і ўся ўсходняя медыцына, і, для большага аўтарытэту лячэння, выводзіцца яно ад старога рымскага прынцыпа: medice, cura te ipsum/лячыся, лекар, сам/. У дасканала візантыйскім савецкім грамадстве, на лячэнне ў псіхіятрычныя бальніцы кіравалі не тых, што палюбілі паталагічна, як нейкі наркотык, уладу, але тых, хто хацеў лячыць хворых. Паглянь-ма, як выглядае сітуацыя ў постсавецкай Беларусі. Жывуць тут людзі працавітыя і акуратныя, ім так спадабаўся маскоўскі парадак, што не толькі дагналі, але і абагналі старэйшую сястру. У гэтай гонцы патомкі крывічоў і дрыгавічоў загналіся, здаецца, аж на Камчатку. Далей ужо толькі Амерыка. Масква хоча крышку прыпадабацца для Захаду і, карыстаючыся гэтым, беларуская дзяржава-маладзіца атрымоўвае мажлівасць заняць апаражняемае месца візантыйскага ідэалу. Без рэферэндума, без выбараў, традыцыйна. А як выглядае сітуацыя далей на захад - у Варшаве? Палякі, уціснутыя паміж філасофію Рыма і Масквы, быццам паміж молатам і кавадлам, стараюцца ісці на кампрамісы, каб выглядаць прыстойна з аднаго і з другога боку. Тутэйшыя звычаі, як вынік гэтага кампрамісу, - арыгінальныя і вельмі цікавыя: людзі хочуць быць "заходнімі", уладзе ж вельмі адпавядае ўсходняя мадэль. Супярэчнасць гэтая развязваецца раз на менш-больш дзесяць гадоў: найбольшыя прыхільнікі ўлады адыходзяць у заходнім стылі, меншыя - прыходзяць на іх месца ва ўсходнім. Некаторыя "плоткі" дастаюць штуршок уверх на нейкую высокую, але пустую пасаду - абыходзяцца з імі, як відаць, вельмі далікатна і элегантна: не вывальваюць за дзверы, як на Захадзе, але садовяць у мяккае крэсла, якое пераносяць ад прэзідыяльнага стала дзесьці пад печку. Праўда, апошнім часам Варшава намагаецца пераняць заходнія звычаі, але што з гэтага атрымаецца - гадаць зарана. Астаецца яшчэ высветліць, як працавітыя беларусы ў польскай дзяржаве абыходзяцца са сваімі ўладарамі. Сітуацыя вядомая - "нашыя" вядуць сябе па-візантыйску - зусім нязгодна з новай дзяржаўнай прагматыкай, быццам бы жывуць яны ў нейкай іншай дзяржаве. Такая сітуацыя даволі небяспечная, пахне сепаратызмам, але выхад з яе, думаю, ёсць. Па-трэбная тут толькі будзе добрая воля Варшавы і нашыя праблемы могуць знайсці нечаканы happy end. Выхад нескамплікаваны, найпрасцейшы з простых: у Польшчы зараз 49 ваяводстваў - толькі аднаго не хапае да поўнай паўсотні. Хапіла б стварыць гэтае 50-е ваяводства. Магло б яно размяшчацца на астравах Абармотах, дзе бегае кот у ботах. Нашыя ўладары маглі б выгодна перасесціся са сваіх пасад на новаваяводскія: старшыня стаў бы ваяводам, намеснік - намеснікам ваяводы і некалькі іншых пасадаў таксама не пуставала б. Да гэтага быў бы яшчэ нейкі службовы "паланез". Але гэта яшчэ не ўсё: кожнае ваяводства мае ў польскім парламенце двух сенатараў - мелі б і мы сваіх прадстаўнікоў у найвышэйшым органе ўлады ў краіне! Нашыя сенатары, думаю, вельмі пасавалі б да задаволенай кампаніі, якая цяпер там знаходзіцца: прывіталі б іх там з вялікай радасцю.

**АЛЯКСАНДР ВЯРБІЦКІ**



### СОН, А ХУТЧЭЙ ЯВА

Даўжэзныя артыкулы ў „Ніве" — пераважна нудныя, а калі напісаны яны яшчэ вельмі мудрымі словамі дык адпіхаюць чытача нейкай чужасцю. А вось артыкул Аляксандра Вярбіцкага „Стог саломы беларускіх капіталістаў" („Ніва" н-р 3) мае іншы характар і стыль, і таму прачытаў я яго аднам залпам. Усё, што ён напісаў з'яўляецца праўдай, а тое, што аўтар „бачыў" у сне — гэта этапы гісторыі беларускага народа, які вельмі лёгка і мякка паддаваўся кожнай дамінацыі і ўладзе. Гэты артыкул з'яўляецца свайго роду аповесцю-метафарай: такое штось не кожнаму майстру пяра ўдаецца. А вось Вярбіцкаму ўдалося таму, што ён напісаў праўду і, на жаль, горкую пра нас. Ён „на кант" паставіў нашых беларускіх бюракратаў і наменклатуру, якая не здаецца. Захопам камп'ютэраў з рэдакцыі „Нівы" беларускія бальшавікі скампраметавалі самі сябе. Выхваляюць яны цяпер капіталізм, але іхні капіталізм варты толькі „стога саломы": ён пусты і мала з яго карысці — мо толькі падсцілаць у хляве, дзе стаяць каровы, авечкі, коні і іншы інвентар. Гэта не той капіталізм, які можна параўнаць да стога са збожжам. У „Беларускім календары", бадай за 1991 год, Ул. Юзвюк напісаў аграмаднае літанне, у якім выхваляў бальшавіцкую рэвалюцыю 1917 г., пачатак нашых няшчасцяў, і ганарыўся ўдзелам у ёй жыхара Новаберазова — Мартынюка. Юзвюк хваліцца мартынюковым бальшавіцкім ордэнам, які ляжыць на ганаровым месцы ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы: каб не гэтая адзнака, дык музей наш не быў бы дастойны быць музеем. Гэта ж ігранне на нашых нервах! І як тут можа быць добра?

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




### ЧАСТКА XXVII

Каля месяца таму назад быў я ў Беларусі. Вяртаўся аўтобусам Мінск—Беласток, на які білет каштуе астранамічную суму 8900 рублёў і яшчэ да гэтага даходзіць у Горадні 150 рублёў так званага экалагічнага падатку. Некалькі гадоў таму назад білет з Мінска ў Варшаву каштаваў 18 руб. Ад'езд аўтобуса з Мінска спазніўся на паўтары гадзіны. Вось гэты час выкарыстаў я для размоў з беларусамі. Сутыкнуўся тут я з пяцідзесяціпяцігадовай жанчынай, якая праявіла досыць незвычайныя погляды. Па сутнасці, я першы раз у жыцці спаткаўся з чалавекам, які б такім чынам інтэрпрэтаваў сучаснае беларускае жыццё, як гэтая жанчына.

„Дык вы, значыцца, з Польшчы, а гаворыце па-беларуску, Ну то калі вы гаворыце па-беларуску, то і я паспрабую гаварыць па-беларуску, хоць вядома, што буду рабіць ашыбкі, бо ўсе мы тут прывыклі да рускага языка. Ну але калі прывыклі то можа адвыкнем, калі будуць тут другія парадкі.

Я сама то помню Польшчу досыць добра, бо я з-пад Баранавіч і да вайны жыла пад Польшчай і нават хадзіла ў польскую школу. Калі вас так вельмі цікавіць усё тое, што цяпер у нас выступае, то я вам скажу, калі б вы так мяне зачапілі гадоў пяць таму назад, то я падумала б, што вы шпіён і не ведаю, ці я не паведаміла б міліцыянта. Але сягодня то ўжо ніхто на гэту справу так не смотрыць і ніхто нікога не баіцца.

Ну, калі Вас цікавіць, як мы на гэта ўсё, што ў нас адбываецца глядзім, то я вам скажу так. Пачці што ўсе людзі ў нас стогнуць і праклінаюць Гарбачова і

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Ельцына за тое, што яны змарнавалі наша жыццё, што давялі да бяды, што размножылі зладзейства і бандытызм, што зрабілі з нас жабракоў і гандляроў. Урэшце лаюць за тое, што пазволілі на развал Савецкага Саюза, у якім жылося нам зусім нядрэнна, можа не раскошна, але не голадна і не холадна. О не, я то не далучаюся да тых, хто абвінавачвае Гарбачова і Ельцына. Я трыццаць гадоў ужо чытаю Свяшчэннае Пісанне і там, ведайце, усё напісана аб тым, што мы перажываем сягодня. І ў гэтых пераменах, якія ў нас ёсць не вінаваты ні Гарбачоў, ні Ельцын. Калі б не было іх, то былі б другія і так перамены былі б такія, якія ёсць. Ну, праўда, трэба сказаць, што Гарбачоў распусціў народ. Гэтага яму нельга было рабіць і аб гэтым у Свяшчэнным пісанні не напісана. А ён распусціў. Ну, а як распусціў, то пайшло па вёсках і яўнае зладзейства, і бандытызм, і разбой, і вялікая спекуляцыя. Вось яшчэ пару гадоў таму то ў нас людзі гадзіліся палякаў за тое, што яны ў нас так спекулююць, ну а сёння то беларусы спекулююць не горш, чым тыя палякі, і то дзе — у Польшчы. Цэлаю ардою пруць у Польшчу, кідаюць работу, трактары, камбайны, жывёлу ў найбольш гарачы летні і асенні час, едуць да вас на базары. Але і гэта вынікае з Свяшчэннага Пісання. Там сказана, што ўсе народы зрушацца з месца і пойдуць невядома куды і чаго, значыцца, што на людзей прыдзе чмута. Вось яна і прыйшла на ўсіх і тут Гарбачоў ні пры чым.

Вы мяне пытаеце пра капіталізм. Вядома, што гэта чортавае насенне. Я іх помню з таго часу, як мы пад Польшчай жылі. Божа, якая тады бяда была па вёсках. Без электрыкі, без мыла, без лякарстваў, з клапамі і блохамі. Не даядалі. Гэта быў капіталізм. А як будзе сягодня? Ну, калі будзе так як перад вайною, то тады народ узбурыцца і можа зрабіць яшчэ адну бальшавіцкую рэвалюцыю і гэта была б нова бяда, бо зноў пачалося б вялікае бязбожжа. Божа мой, што мы перажылі. То ж людзі баяліся хрысціць дзяцей, ды і не было дзе хрысціць. Па пяцьдзесят кіламетраў вазілі дзетак. А да каго вазілі! Часам дык быў гэта сапраўдны духоўны, але нярэдка то былі нейкія паўпапы, або і звычайныя шарлатаны. Ну, сёння то ўжо ніхто нікому ў царкву хадзіць не забараняе, але колькі ж тых цэркваў засталося? Вельмі мала.

От так мы і жывем. Самі не ведаем на якім свеце, як гарох пры дарозе. Для мяне то справа зусім ясная. Трэба варочацца ўсім людзям да Бога, бо толькі жывучы разам з Ім, чалавек беражэ сваю душу ад граху. Я то ўжо проста ні магу дачакацца суботы і нядзелі. Сядаю сабе, бяру Пісанне і чытаю, і ўсё ў гэтым цёмным свеце становіцца ясным і прападае ўсякі бруд і грэх. Чалавек ачышчаецца душою. Вядома, што Свяшчэннага Пісання не будзе чытаць п'яніца. Яму не да Бога, толькі да бутэлькі.

Як ужо заедзеце да сябе і пабачыце сваіх блізкіх, то скажыце ім, што ў Беларусі яшчэ ёсць нармальныя людзі, якія маюць надзею на Бога.

Ну, а што датычыцца тае нашае незалежнасці, то ж гэта таксама з волі Бога. У Пісанні сказана, што кожны кароль павінен на сваіх граніцах стаяць і не ісці ў чужыя краіны. Вось згэтуль і маем незалежнасць Беларусі, а гэтыя ўсе Гарбачовы і Ельцыны то тут ні пры чым. От і ўсё".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*У лесе зімовым стаіць цішыня...*

**Фота Я. Целушэцкага**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Воблакі ідуць супраць ветру - перад вялікім снегападам.

Вецер нечакана падзьмуў з паўночнага боку - перад пахаладаннем.

Два дні запар вельмі ясныя зарніцы - перад марозным надвор'ем.

Шэрань на бярозах - да марозаў, бяроза ў тумане - да адлігі.

Сонца на захадзе ярка-чырвонае, неба ноччу чыстае зорнае - перад сонечным надвор'ем, зімою - перад маразамі.

Зімою вада раптам выступіла на рачны лёд - перад дажджом ці адлігаю.

## ГЭТА ЦІКАВА

Усіх птушак можна падкормліваць насеннем канапель і крошкамі белага хлеба. Дзятлам і сініцам можна даваць насенне сланечнікаў, несалёнае мяса і сала, снегірам і амялушкам - ягады рабіны, каліны, журавін, конскага шчаўя, шчыглам - насенне лопуху, чачоткам - насенне лебяды.

## СТВАРАЛІ БЕЛАРУСКІЯ МАЙСТРЫ

Карані дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі хаваюцца ў глыбокай старажытнасці. Вытокі яго прасочваюцца ў раннім жалезным веку, а ўжо ў часы сярэднявечча /IX-XIII ст. ст./ многія рамёствы сталі самастойным заняткам, перш за ўсё ў гарадах. Прыкметны росквіт розных рамёстваў пачынаецца з XVI стагоддзя ў сувязі з ростам і развіццём беларускіх гарадоў, актывізацыяй гандлёвых сувязей з суседнімі краінамі. Шмат рамеснікаў працавала пры манастырах, замках, палацах, маёнтках, дзе нярэдка канцэнтраваліся немалыя мастацкія скарбы.

Прыкметны рост колькасці рамеснікаў выклікаў патрэбу спецыялізаваных прафесійных аб'яднанняў - цэхаў. Іх стварэнне ў сваю чаргу паспрыяла развіццю рамесніцкай вытворчасці, станоўча паўплывала на яе характар: цэхі клапаціліся пра падрыхтоўку майстроў, якасць прадукцыі, добра арыентаваліся ў агульнаеўрапейскіх мастацкіх стылях. Напрыклад, у Магілёве ў XVII стагоддзі цэхавыя арганізацыі налічвалі больш за 80 рамеснікаў спецыяльнасцей: саф'яннікі, замшавікі, нагаўнікі, кафтаннікі, сярмяжнікі, панчошнікі, капялюшнікі, збройнікі, медыкі, печнікі, людвісары /ліцейшчыкі званоў, гармат/, канвісары /ліцейшчыкі з волава і свінцу/ і інш. Цаніннікі выраблялі кафлю для печаў; разьбяры - мэблю, іканастасы; ткачы - розныя сукны, дываны, паясы; металаапрацоўшчыкі - зброю, абклады, посуд і іншае.

Шырока развівалася мануфактурная вытворчасць. Далёка за межамі Беларусі набылі вядомасць мануфактуры па вытворчасці шкла і крышталю ў Налібоках і Урэччы, шаўкавых паясоў - у Слуцку, габеленаў - у Карэлічах, фаянсу - у Целяханах.

Хоць цэхі і мануфактуры ў значнай ступені арыентаваліся на агульнаеўрапейскія мастацкія традыцыі, беларускія майстры заўсёды імкнуліся надаць сваім вырабам непаўторнае мясцовае аблічча. Вырабы некаторых рамёстваў увайшлі ў сусветную скарбонку дэкаратыўнага мастацтва як дасягненні менавіта беларускіх майстроў.

**ЯЎГЕН САХУТА**

# ПУШОК

Нарэшце мара дзяўчынак-сястрычак здзейснілася: ім купілі шчанюка. Беленькага. Калматага. Пушкам назвалі. Колькі радасці было. Колькі клопату. Ладзілі яму пасцельку. Кармілі. Гулялі з ім.

Гульні - шумныя, вясёлыя. Сабачка гыркаў, нападаў, пераварочваўся дагары, адбіваўся лапамі, падхопліваўся і сігаў куды-небудзь у кут, зноў выскокваў і зноў - валтузня.

А вачаняты - хітрыя, разумныя, быстрыя. Рухі - рэзкія, дакладныя. Але і фокусы здараліся. Не разлічыць часам Пушок і стукнецца ў канапу. Глядзіць няўцямна ды зноў - за гульню. А дзяўчынкам і смешна і шкада сабачку.

Малы ўсё больш зведваў свет. Асвойваў кухню, дзе спаў і еў, пакоі, пярэдні пакой. Уведаў сваіх. Калі паяўляўся чужы, заліваўся звонкім брэхам.

- Малайчына, Пушок, - хвалілі яго дзяўчынкі, і ён задаволена віляў хвастом.

У двары ўсе кусцікі і дрэўцы абнюхваў. Траву жаваў, выбіраў сабе патрэбную. Апантана бегаў між бярозак. З вясёлым віскам насіўся за сабакамі.

- Хутка абучым цябе, - гаварылі дзяўчынкі і прыкідвалі, што Пушок будзе ўмець, як ён іх абароніць ад нядобрых хлопчыкаў.

Раптам Пушок занядужаў. Перастаў есці. Ляжаў. І вочы ў яго былі сумныя-сумныя. Дзяўчынкі гладзілі яго, дапытваліся:

- Што з табой, Пушок?

Ён лізне ім рукі і заплюшчыць вочы.

Вывелі Пушка ў двор. Там бегалі тры такія, як ён. І Пушок разышоўся. Ганяўся за сабакамі, кідаўся на іх, станавіўся слупком, брахаў, пішчаў. Такога ён яшчэ не вытвараў.

- Ён зусім не хворы, - радаваліся дзяўчынкі. Але яны не заўважылі, што іх сабачка цяжка дыхае, што ён адстае ад сваіх "сяброў".

Гэта была апошняя радасць Пушка. Перад няшчасцем усё жывое незвычайна весяліцца.

Ноччу Пушок памёр. Суседзі казалі, што ў яго была мусіць, "чумка".

Дзяўчынкі горка плакалі.

**МІКОЛА ДЗЕЛЯНКОЎСКІ**

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

*МІРА ЛУКША*

### ГОСЦІ МІКІТЫ

На вяселле да ката  
Едуць госці ў санях, -  
Проста - глянуць любата;  
Такая кампанія:  
Верабей Анікей,  
Бела курка Нюрка,  
Рагуля Бысюля,  
Рабы кот Хвядот,  
Дзяўчынка Алінка...  
А за імі,  
У машыне,  
Дзве авечкі-дамы,  
У футрах  
Проста з крамы:  
Чорная Бэля,  
Белая Мэля.  
А хто шафёр?  
Тхор Рыгор!

* * * * * * * * *

*ВІКТАР ШВЕД*

### ЦІ БІЎСЯ ДЗЕДКА З ХЛАПЧУКАМІ?

Дзядулю запыталі дзеці:  
- Ці біўся ты ў дзіцячы час?  
- Усё здараецца на свеце,  
Я біўся з хлопцамі не раз!

А потым дзедку запыталі,  
Як гэта кажуць, на хаду:  
- Ці цябе дзеці не цягалі  
І за вусы, і бараду?

### НЕ НАМАЧЫЎ МЫЛА

- Я меў у хаце драму, -  
Азваўся ў школе Лёня. -  
Па чым пазнала мама,  
Што я не мыўся сёння?

- Па чым? Дык мне вядома, -  
Падказвае Даніла, -  
Не намачыў ты дома  
У вашай ваннай мыла.

### ЧАМУ, МАМА, СВЯТЛО Ў КРАМЕ?

Ад сваёй мамы Ніна  
Дазнацца вельмі хоча:  
- Чаму ж у магазіне  
Святло гарыць уночы?

- Дзеля зладзеяў крамы,  
Дачуся, асвятляюць.  
- А ці ж зладзеі, мама,  
Ліхтарыкаў не маюць?

### СТРАШНЫ СОН

Даведацца матуля хоча:  
Чаму сынок крычаў уночы?  
- Мне сон прысніўся небывалы:  
Вось раптам Уля ў ваду ўпала.  
Матуля запытала сына:  
- Скажы, што гэта за дзяўчына?  
Сынок адказвае: - Я Улю  
У гэтым сне знайшоў, матуля.

### МАГЧЫМА, УВОЙДУЦЬ ДЗВЯРЫМА

Мама скардзіцца: - Штосьці,  
Не ідуць да нас госці...  
Папрасіла дык Мішку:  
- Ля акна пастой крышку.  
І стаіць тут няспынна  
Мішка можа з гадзіну.  
Адазваўся: - Магчыма  
Госці ўвойдуць дзвярыма?..

### НЕСПАКОЙ

Ваня скардзіцца сябру:  
- Не бываць ужо дабру.  
Вось купіў машыну тата  
І прадаў старога фіята...  
- Гэта ж, дружа мой, не драма.  
- Ды сказала мая мама,  
Што ўжо купляць для парадку  
Новае сабе... дзіцятка!

 

Алена Васілевіч

# КАЛІНАВАЯ РУКАВІЧКА

Чаму рукавічка, калі казка будзе пра чырвоную каліну, пра старую яліну-казачніцу, пра ветра-бяздомніка?

А вось паслухайце.

Расла на ўзлессі каліна. Была маленькая, ды раптам, зусім неяк непрыкметна вырасла. Зацвіла белым цветам, закрасавала - на дзіва і зайздрасць усім суседнім дрэвам.

- Фарсуха, - пазіраючы на яе, аж трэсліся ў лажку асіны, заўсёды бледныя і зялёныя.

Учэпістыя калючыя дубкі, што раслі на схіле пагорка, таксама непрыхільна пагладалі на маладую каліну: яна зусім не звяртала на іх увагі.

Толькі старая яліна-казачніца спачувальна пазірала на каліну-прыгажуню і скрушна ківала галавой:

- Пацвіце, пакрасуецца ды і завяне. Па лесе гуляе бура. Чалавек ходзіць. А ў яго нядобрыя рукі. Ён ломіць і крышыць усё, што ні стрэне на дарозе.

Яліна-казачніца пражыла доўгае жыццё і ўсяго нагледзелася за свой век. Ноччу, калі ў лесе рабілася цёмна, хоць выкалі вока, да яе прылятала старая сава. Днём яна спала, а ноччу гойсала па лесе, шукаючы сабе спажывы.

- Гэта ты, паўночніца, - незадаволена сустракала яе яліна. - Не люблю я тваіх сквапных вачэй. Усе кругом спяць, а ты ўсё шнырыш па лесе.

- Я днём выспалася, - пазяхала сава, - а ноччу ў мяне паляванне: дзе соннае зайчаня схаплю, дзе на мышыную сям'ю натраплю. Ху-ху-ху!

- Зладзейка ты...

- Ху-ху-ху! - зноў на самае вуха старой яліне рагатала сава. - Ты вельмі добрая...

І - мах-мах крыламі! - знікала ў цемры.

- Паляцела, - бурчала ёй услед яліна-казачніца, пільна прыслухоўваючыся да шолаху ў вавёрчынай хаце.

Вавёрка жыла па суседству з ялінай у цёплым асінавым дупле. Яна была вельмі дбайная, вельмі руплівая гаспадыня. Пра гэта не раз гаварыла старая яліна і дзятлу-бондару, і зязюлі-мачысе.

- Паглядзі, як трэба пра дом клапаціцца ды пра дзяцей: і каб цёпленька ім было, і каб смачненька. А ў цябе, паслухай, як плачуць дзеці, - дакарала яна зязюлю.

І сапраўды, у лясным гушчары, дзесьці далёка-далёка, чутно было адзінокае "ку-ку"...

- Няхай не лётаюць гэтак далёка, дык і блудзіцца не будуць. Няхай дома сядзяць, - адмахвалася ад папрокаў зязюля.

- Які ж у іх дом? - ківала галавой яліна. - Вунь ты падкінула іх да мухалоўкі. Ну, гадуе яна іх, корміць. Але ж не родная маці. Смачнейшага чарвяка аддасць яна не тваім дзецям, а сваім.

- Не твая справа, - не жадала слухаць яліну зязюля. - Усюды ты свой нос уткнеш.

- Ага, не хочацца слухаць праўду. Горкая яна, - казала ўслед зязюлі яліна і, крыху памаўчаўшы, ужо дакарала дзятла: - А ты чаму такі дурны? Вучыўся б жыць у вавёркі. Глядзі, адамкнула свіран, нагрэбла арэхаў ды шышак, і гора ёй мала. Сядзіць сабе ў цяпле, ласуецца. А ты штодня з гэтым сваім долатам па лесе гойсаеш. А ці многа ім заробіш?

Дзяцел-бядак і праўда - зіма не зіма, холад не холад - дзень пры дні павінен быў зарабляць сабе на пражытак.

- Ат, цётачка, колькі мне аднаму трэба, - звычайна адказваў ён яліне. - Дзяцей я пагадаваў. Старая мая, вы ж самі ведаеце, яшчэ леташняй зімы не перазімавала... От жа пражыву неяк халады. Балазе, кажух цёплы маю.

- Так, так, дзіва што пражывеш, - бурчала яліна.

Як і ўсе старыя, яна не любіла, калі з ёю не згаджаліся.

Яна змаўкала, збіраючыся крыху падрамаць. Але тут налятаў халодны вецер-сівер. Ён трос яе, выкручваў голле і ўзнімаў такі свіст і трэск, што спуджаная вавёрка зашывалася ў сваё дупло і не дыхала, быццам там яе і не было.

- Шалёны! - адмахвалася яліна. - Адкуль цябе прыгнала?

Сівер узмахваў доўгім расхрыстаным халатам, перакручваўся некалькі разоў у паветры і імкліва знікаў - гэтак, як і прыляцеў.

- Ох, скруціць ён галаву гэтай дурной каліне! Вунь як яна хіліцца, ледзь не да самай зямлі яму кланяецца...

Старой яліне з узгорка было добра відаць усё, што рабілася на ўзлессі.

І сапраўды, маладая каліна яшчэ больш чырванела і харашэла, сустракаючыся з ветрам-сіверам.

- Ляцім са мною па свеце! - шаптаў каліне вецер. - Што ты тут бачыш, стоячы ўсё на адным месцы, усё пры гэтай дарозе?

- Людзі тут ходзяць і ездзяць...

- Дурная ты! Паслухай, што кажа пра гэтых людзей старая яліна. Яны згубяць цябе. А ягады твае - навошта яны ім?

- Не кажы так. Мая ягады лечаць людзей... У цябе няма сэрца, і ты не ведаеш, як гэта цяжка, калі яно баліць. А людзі ўмеюць варыць з маіх ягад лекі і лечаць імі сэрца.

- Людзі, лекі... Навошта яны табе здаліся! Мы паляцім за мора! І ты забудзеш пра гэты свой лес, сваю дарогу, на якую ты дзень і ноч глядзіш як утрапёная.

- І ніколі больш не вярнуся сюды?

- А чаго?

- Не, я не здолею... Я высахну і памру без свайго лесу, - плакала каліна.

- Ну дык і заставайся тут! А мне няма часу з табой валаводзіцца. Не спадзявайся, каб я яшчэ лятаў да цябе...

Вецер-сівер узмахваў сваім халатам, пранізваў каліну смяротэльным холадам. Каліна калацілася, дрыжала, і на зямлю чырвонымі ягадамі сыпаліся яе горкія слёзы.

- Пачакай, не пакідай мяне адну! - стагналя наўздагон ветру каліна.

А калі настала зіма і ў лесе не было ўжо ніводнага зялёнага лісціка, ніводнай кветачкі, ішла дарогай, каля якой расла каліна, жанчына з маленькім хлопчыкам.

- Мамачка! - закрычаў хлопчык і запляскаў у далонькі. - Зірні, зірні - ягады!

Яны спыніліся.

- Гэта каліна, сынок. Бачыш, якая: зіма, мароз, а яна не баіцца...

- Можна сарваць?

- Толькі асцярожна. Не паламі галінак.

Хлопчык ірваў чырвоныя калінавыя ягады, клаў іх сабе ў рукавічку і прыгаворваў:

- Не бойся, калінка-малінка. Мяе ручкі не злыя. Галінак тваіх не паломяць, вершалінкі не скрышаць. Толькі ягады сарвуць - маме на лекі...

Так ён прыгаворваў і ўсё клаў і клаў у сваю рукавічку чырвоныя ягады. І каліна радавалася: ашукаў яе вецер-сівер. І яліна-казачніца таксама памылялася. Добрыя ў чалавека рукі, разумныя...

Вось і канец гэтай лясной казцы. Той маленькі хлопчык захацеў назваць яе казкай пра калінавую рукавічку.

Ну і што ж, няхай сабе будзе рукавічка, няхай сабе калінавая.

ПРЫГОДЫ ДЭТЭКТЫВА ГАЎКА



























 

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Што за дзіўныя сны падрад прысніліся мне і маёй дачцэ! Мой сон. Гляджу я ў акно і бачу, што ляцяць, быццам плывуць па небе немаўляты, ляжаць на плячах. Іх многа, яны загорнутыя ў белыя пялёнкі і з павіякамі. Галоўкамі на заход.

Дачцэ снілася, што я выходжу замуж. Дачка кажа: „Як гэта ты бацьку пакінеш, ды не маеш нават шлюбнай сукенкі. Я на тваё вяселле не пайду. Што ты робіш, мама?" А я адказала: „Выходжу і ўсё!"

А яшчэ прыснілася мне, што ідзем мы з унучкам. Заходзім у мясны магазін. Прадаўшчыца важыць нам мяса — нямнога. Я хацела заплаціць ёй, але ўвайшоў нейкі мужчына, мо кіраўнік крамы, і прадаўшчыца пайшла з ім. Так і не купілі мы гэтага мяса. Выйшлі з крамы, ідзем, але не ў горадзе. Дзесьці канчаецца лес. Я гляджу, на ўскраіне гэтага лесу растуць кветкі. Гэта такія, як у маёй кватэры, але пасаджаны яны ў зямлю. Разрасліся высокія, прыгожыя. Не магу наглядзецца на іх. Кажу, што бадай таму яны так добра растуць, што зямля лёгкая, пшанічная.

**МАР'Я**

Мар'я! Першы твой сон абазначае, што радасць і душэўная раўнавага прыйдуць да цябе з захаду.

Але сон тваёй дачкі пра цябе сведчыць аб тым, што будзеш яшчэ мець дастаткова цяжкіх абавязкаў, турбот і затрудненняў.

Што датычыць твайго другога сну, дык ён як бы пацвярджае першы твой сон і сон дачкі, бо сырое мяса бачыць ці есці — хвароба і смутак, але ўжо тыя кветкі, высокія і прыгожыя, якія ты бачыла каля лесу, сведчаць аб тым, што ўсё кепскае для цябе пройдзе.

**АСТРОН**

### ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАЎКА ТАМАРЫ ТАРАСЕВІЧ

З мастацкім талентам Тамары Тарасевіч з Белавежы пазнаёмяцца нарэшце і жыхары Бельска-Падляшскага. 9 лютага г.г. (аўторак), а гадз. 15, у тамашняй ратушы будзе адкрыта выстаўка каля 30 палоцен, намаляваных у розныя гады яе адносна нядоўгай яшчэ (маляваць пачала напрыканцы 1988 г.), але затое вельмі плённай творчасці (каля 150 прац).

Тамара Тарасевіч у Бельску будзе святкаваць свой юбілей. Гэта яе... дваццатая (!) персанальная выстаўка. З гэтай нагоды, і для ўшанавання несумненнага таленту, які нарадзіўся на нашай зямлі, вядомая бельская суполка „Амега" фінансавала і выдала трохмоўны выставачны каталог. Выстаўка будзе працягвацца да канца сакавіка г.г.

Запрашаем!

**П. БАЙКО**

ЗЁЛКІ — ЛЕКІ

# КАШТАНЫ ЛЕЧАЦЬ

Каштан звычайны (Aesculus hippocastanum L.) гэта дрэва вышынёю да 25 метраў, якое паходзіць з Балканскага паўвострава і Малой Азіі. У Польшчы каштаны часта садзяць уздоўж вуліц, каля хат, у парках. Драўніна каштанаў даволі мяккая і знаходзіць прымяненне ў сталярстве і такарстве, а таксама як сыравіна для вырабу цэлюлозы. Кару каштаноў выкарыстоўваюць у гарбарстве і для фарбавання воўны, а насенне — у вытворчасці клею.

Усім вядомы ў нас каштан з'яўляецца вялікім дрэвам з густой кронай. У яго вялікія лісці, кожны з іх складаецца з 5—7 меншых лісткоў рознай велічыні. Яго кветкі белыя ў чырвоныя кропкі. Цвіце каштан на пераломе мая-чэрвеня. Яго плады выглядаюць як круглы калючы мяшочак з адным-трыма вялікімі карычневымі бліскучымі шарыкамі з шэрай матавай плямай.

Наогул садзяць у нас каштаны з кветкамі ад белага, жоўтага, ружовага колеру аж да чырвонага. У лячэбных мэтах выкарыстоўваецца толькі каштан з белымі кветкамі.

Каштан з'яўляецца крыніцай некалькіх відаў лячэбнай сыравіны.

Вясною, у перыяд пускання сокаў, зразаюць маладыя гладкія і здаровыя галінкі, а пасля здымаюць з іх кару і сушаць яе ў прадуўным месцы. Атрымліваецца сыравіна Cortex Hippocastani (кара каштана).

У чэрвені зразаюць усе кветкі цвітучага каштана, пасля зрываюць кожную кветачку паасобна і сушаць іх у цяністым і прадуўным месцы, а ў часе дажджу і холаду — у сушыльні, якая ацяпляецца да тэмпературы 35 градусаў Цэльсія. Атрымліваецца сыравіна Flos Hippocastani (цвет каштана).

У канцы ліпеня (выключна па заказу зёлкавых прадпрыемстваў) зрываюць няспелыя яшчэ каштаны (Fructus Hippocastani immaturus) і адразу ж, свежыя, перадаюць іх для перапрацоўкі.

Восенню збіраюць спелыя плады каштана (Semen Hippocastani), якія сушаць у натуральных варунках у цяністым і прадуўным месцы.

Каштан трапіў у сярэднюю Еўропу ў XVI стагоддзі і ад таго часу розныя часткі гэтай расліны прымяняліся ў народнай медыцыне, а пазней і лекарамі. З лісця рабілі сродак на адкашліванне, з кветак — сродак для паўстрымання крывацёку, а таксама супрацьрэўматычны і супрацьартрытычны, кару ж таксама выкарыстоўвалі для паўстрымання крывацёку і пры гарачцы. Лічылі таксама, што адвар з пладоў каштана быў вельмі добры ад рабакоў. Змеленыя каштаны дадавалі да кармоў коням, якія кашлялі і задыхаліся. Ужо ў пачатку XX стагоддзя некаторыя французскія лекары лічылі, што кара каштанаў з'яўляецца добрым сродкам пры перарасце прастаты.

У сучасны момант даказана, што сродкі з каштана вяртаюць эластычнасць жылам, рэгулююць кровазварот, не дазваляюць застайвацца крыві ў жылах; папяроджваюць і ліквідуюць ацёкі; дзейнічаюць супрацьзапальна на страўнікавы тракт.

Найчасцей выкарыстоўваюць сродкі з каштана як супрацьацёчныя сродкі (унутраныя) пры ацёках, выкліканых механічнымі пашкоджаннямі ці вывіхамі, а нават пры запаленні скуры або ацёках лёгкіх ці мозгу, пры адмарожваннях.

Добрыя вынікі лекары атрымліваюць таксама, выкарыстоўваючы ўнутраныя сродкі з каштана пры запаленні жыл, пры гемароях, ды наогул калі ў пацыента баляць ці свярбяць ногі, а таксама пры запаленні сцягна.

Знешне прымяняюць сродкі з каштана пры апарваннях і адмарожваннях I ступені.

Кветкі каштана ўваходзяць у склад зёлкавай мяшанкі Rektosan, якую выкарыстоўваюць пры лячэнні гемароя, а са свежых, яшчэ недаспелых пладоў каштана робяць Infractum Hippocastani, які падаецца пры запаленні жыл, пры катары страўніка і кішак.

**Адвар з кветак каштана.** Заліць 1 сталовую лыжку сушаных кветак 1—1,5 шклянкамі цёплай вады і варыць паволі пад пакрыўкай 3 мінуты. Пакінуць зёлкі на 15 мінут, а пасля працадзіць. Піць 1/4—1/2 шклянкі 2—4 разы ў дзень праз паўгадзіны пасля яды пры ацёках у выніку механічнага пашкоджання, пры запаленні жыл і жыляках. Знешне гэты адвар прыкладаюць на пашкоджаныя месцы.

**Адвар з кары каштана.** Заліць 1 сталовую лыжку раздробленай кары 2 шклянкамі цёплай вады і паставіць на 1—2 гадзіны. Тады падаграваць зёлкі і варыць на малым агні 5 мінут. Няхай пастаяць яшчэ 15 мінут, а тады іх працадзіць. Піць 1/3—1/2 шклянкі 2—3 разы ў дзень перад ядой пры катарах страўнікавага тракта, пры слабым паносе, пры хваробах прамой кішкі, калі ў кале заўважаецца кроў.

**Зёлкі пры ацёках.** Змяшаць 30 г кары каштана і зёлак крываўніка звычайнага, 20 г лісця бярозы і па 1 г зёлак баркуна жоўтага лекавага (nostrzyka) і фіялкі трохколернай (браткі). Замест браткі можна даць тую самую колькасць залатарніка залатая розга (nawłoci). Заліць 1—1,5 лыжкі зёлак 2 шклянкамі цёплай вады, падагрэць да кіпення і варыць на малым агні пад покрыўкай 3 мінуты. Праз 15 мінут працадзіць. Выпіць у дзвюх порцыях паміж ядой.

Трэба ўважліва сачыць за дозамі зёлак з каштана, інакш яны могуць выклікаць нуднасць і ваніты.

**ЭСКУЛАП**

## КАСЯК НА "С"




**Управа:** 1/ моўная адзінка, якая выражае паняцце, 2/ крывая, якая круціцца, 3/ зборнік песень, 4/ жыве за Уралам, 5/ інструмент, па якім водзіцца смыкам, 6/ коласаўскі Музыка.

**Улева:** 7/ не бачыць, 8/ пустазелле з жоўтымі кветкамі, 9/ сукупнасць моўных адзінак, 10/ дробная птушка зімой пад акном, 11/ пісьменнік, які з'едліва высмейвае, 12/ ёсць і родны, і творны.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку з 51 н-ра: **Упоперак:** кашуб, фініш, люфа, бутля, арэнда, хлеб, крама, рагуля, акурак, capляк, страха, аснач, удар, Рэмарк, качар, мара, марка, нырка. **Уніз:** кубак, шатрак, бляхар, фарба, нанду, шчаня, фаерка, раут, мука, галс, лука, асадка, паркан, янычар, сорам, рымар, хурма, чарка.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Лукаш Пацэвіч** з Беластока.

# ДРЭВА

Так называецца выстаўка фатаграфій у холе Прыродазнаўчага музея БНП у Белавежы. На ёй экспануецца 28 прац трынаццаці аўтараў, якія гуртуюцца ў большасці вакол Ваяводскага дома культуры ў Сувалках. Іх прозвішчы - Барэйша, Буланаў, Фалінскі, Ярмацэвіч, Кэчынскі /арганізатар белавежскай выстаўкі/, Крупінскі, Кшывіцкі, Матуль, Міхалоўскі, Аліхвер, Васілеўскі, Вось і Ясінскі.

Прадстаўлены працы, выкананыя пераважна чорна-белай тэхнікай, раней паказваліся на выстаўцы ў Сувалках.

**П. БАЙКО**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранові (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1993 r. upływa 20 lutego 1993 r.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 39 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. w I kwartale 1993 r. wraz z wysyłką wynosi 4000 zł., a kwartalnie - 52000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

*Вятры „белавежскія"*

**ІЯАН ЧАШНІК**

Мне ўсё здаецца, што вось-вось
зыду з высокіх я нябёс,
ачышчу одапісцаў род
і новы дух спашлю ў народ.

**P.S.**

Іду да вас я на ўспамін
з прычаснай чараю. Амін.

**СІДАР МАКАЦЁР**

*АМБРОЗ БІРС*

## БАЙКІ

### ЛЮБЯЧЫ СЫН

Мільянер, які заехаў у дом састарэлых, каб наведаць бацьку, сустрэў Суседа, і той быў вельмі здзіўлены,

— Як гэта! —сказаў сусед. — Вы часам наведваеце бацьку?

— Калі б мы памяняліся ролямі, — сказаў Мільянер, — я ўпэўнены, ён наведваў бы мяне. Старычына заўсёды ганарыўся мной. Да таго ж, — дадаў ён, — мне быў патрэбны ягоны подпіс. Я застрахаваў яго жыццё.

### АЎЦА І ЛЕЎ

— Ты — звер вайны, — сказала Аўца да Льва, — і людзі палююць на цябе. На мяне, прыхільніка непрацаўленства, не палююць.

— А ім няма на гэта патрэбы, — адказаў сын пустыні. — Цябе яны могуць проста гадаваць.

### НЕСУЦЕШНАЯ ЎДАВА

Жанчына ў жалобным адзенні галосіць на магіле.

— Суцешцеся, пані, — сказаў Спачуваючы Незнаёмец. — Бог міласцівы і акрамя вашага мужа, недзе на зямлі ёсць для вас іншы чалавек, з якім вы будзеце мець шчасце.

— Быў, — загаласіла яна, — быў такі чалавек. Гэта яго магіла.

*З англійскай пераклаў*
*АЛЕСЬ КУДРАЎЦАЎ*




І Я ПРЫЧАКАЎ БЕЛАРУСКІХ НАДПІСАЎ У БЕЛАСТОКУ.




ЛЁНІК ©

## НУМІЗМАТЫКА

З жонкай маёй штосьці рабілася - пачала збіраць канверты, паштоўкі, маркі. Яе зарплаты не хапала, і жонка запрасіла ў мяне фінансавай дапамогі. Я ж быў "нумізматыкам" - збіраў металічныя і папяровыя грошы, каб набыць "Запарожац". Пакуль не куплю легкавік, даў я сабе клятву, жонка не атрымае ні капейчыны. У нашай сям'і пачаліся канфлікты...

І тут нечакана я спаткаў жанчыну, якая таксма была філатэлісткай. І я стаў набываць для прыгажуні блокі, серыі, наборы паштовых марак, праштампаваныя каверты...

Праз тры месяцы мая жонка паехала за мяжу - на міжнародную філатэлістычную выстаўку. Дамоў яна вярнулася нібы на крылах:

- Дарагі мой! Я заняла першае месца! З тваёй дапамогай.

- Маёй?!

- Твая прыгажуня з блакітнымі вачамі - мая школьная сяброўка. А ўсе маркі, што ты ёй купляў, яна перадавала мне. Дзякуй за дапамогу, дарагі!

- А як жа машына?

- Набывай гараж! Ёсць і машына!

Жонка падала мне паперу, дзе было напісана, што пераможца філатэлістычнай выстаўкі ўзнагароджваецца маалітражкай "Блакітная чарапаха".

- Праўда, кузаў пластмасавы... - заўважыла жонка.

Але я не даў ёй дагаварыць, падняў на руках і закружыў-закружыў па кватэры!

**АНАТОЛЬ СУНІЦЫН**

## АНЕКДОТЫ

По горадзе ідзе мужчына, вакол пояса абмотаны вяроўкай. Яго спыняе паліцыянт:

— У чым справа?

— Павешуся! Жонка ад мяне пайшла.

Паліцыянт здзіўляецца:

— Вяроўку ж трэба было прывязаць да шыі.

— Спрабаваў: задыхаюся!

* * *

Кадравік прымае на работу новага працаўніка і пытае:

— Колькі гадоў вы былі на папярэднім месцы работы?

— Пяць гадоў.

— А чаму вы яе пакінулі?

— Была аб'яўлена амністыя...

* * *

— Як вашы новыя суседзі? — пытаюць вяскоўца, які пераехаў жыць у горад.

— Нязносныя.

— Чаму? Галасістыя?

— Наадварот, так ціха гавораць, што нічога пачуць нельга.

* * *

Пайшоў да адной жанчыны знаёмы ў госці. Сядзелі, гаварылі... Раптам зазваніў тэлефон. Жанчына ўзяла трубку, пагаварыла і зноў села каля госця.

— Хто гэта гаварыў? — хвалюецца госць. — Мо яшчэ нейкі „знаёмы"?

— Не! Гэта гаварыў мой муж і запэўніваў, што гуляе з табою ў шахматы. Думаю, што вярнуўшыся дамоў, ён бу-дзе хваліцца, як удачна паставіў табе мат.

* * *

— Як, па-вашаму, загадчыку банка можна даверыць тайну?

— Ясна, што можна. Чатыры гады назад яму павялічылі аклад, а жонка і сёння не ведае.

* * *

Дакарае жонка мужа:

— Вечна ты п'яны. Вось і ўчора напіўся!

— То ж дзень чыгуначніка быў.

— А табе што да таго? Ты ж шафёр.

— Але ж мы каля вакзала жывём.

* * *

Аб'ява на мэблевым магазіне: „Калі ў вас не хапае грошай на набыццё антыкварнай мэблі, вы можаце купіць у нас сучасную мэблю ў крэдыт. Пакуль вы выплаціце за яе, яна ўжо стане антыкварнай".

* * *

— Памаглі вам п'яўкі? - пытае доктар хворага.

— Не вельмі. Распаўзліся па ўсёй хаце...

**Падборку зрабіў**
**ЯСЕНЬ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Кахаю я яго да шаленства. Ведаю аднак, што ўсё адбываецца не зусім звычайна і не зусім так, як у іншых. Спачатку мне з ім было нават страшнавата, але нягледзячы на ўсё, нешта цягне мяне да яго так, што нікога, апрача яго, не бачу. Перад ім я сустракалася з хлопцамі, але ніводзін з іх не быў такі цікавы.

Вось уяві сабе, мілае Сэрцайка, наша першае спатканне. Я прыйшла да яго, у яго свая добрая кватэра (яму ўжо 28 гадоў). Падрыхтаваўся. Было віно, добрыя цыгарэты і нейкія замежныя фрукты ў баначках. Адпаведнае святло, настрой, было вельмі прыгожа.

Спачатку ўсё рабіў вельмі спакойна і натуральна. Распрануў мяне, распрануўся сам. А я глянула на яго і анямела ад здзіўлення: які вялізны! Як толькі мы злучыліся, я адчула роскаш, якой не адчувала ніколі дагэтуль. Так кахаліся мы каля паўгадзіны.

Я думала, што ўжо канец, а ён быў ізноў гатовы даслоўна праз пяць мінут. Быў цудоўны, але ніяк не мог скончыць, прайшло ўжо каля гадзіны таго другога „разу", ён загадваў мне цалаваць яго ўсюды, пасля папрасіў пацалаваць яго член, а тады ўсадзіў яго мне ў рот, але і так нічога не памагала. Мне было прыемна.

Нарэшце кажа: „Ну, добра, хадзі, я дапамагу табе!" Узяў свае „габарыты", як ты гэта называеш, у руку і пачаў рабіць мастурбацыю. Пры гэтым увесь час цалаваў мяне як шалёны, а я ляжала побач з ім. Я з жахам сцвердзіла ў думках, што і гэта „пазіцыя" мне дастаўляе шалёную радасць. І хаця на гэты раз ён закончыў, не будучы ўва мне, то і так гэта дало мне вялікае задавальненне.

... А пасля яшчэ накарміў мяне шынкай з баначкі.

Думаеш, Сэрцайка, гэта быў канец яго „фокусаў"?! Што ты! Кожная сустрэча прыносіла нешта новае. Было ўсяк: і перадам, і задам, і бокам, і трэба было сядаць на яго — раз на „габарыт", раз на рот, каб мог мяне цалаваць, чаго толькі не прыдумваў. І заўсёды было мінімум па два разы (другое заканчэнне ўжо, як правіла, было з яго „дапамогай").

А яшчэ крыху пазней ён пачаў дабірацца да маёй прамой кішкі. О Божа! І гэта дало мне задавальненне. І вось так я закахалася ў гэтага немаладога чалавека без памяці.

Увесь час праследуе мяне думка, што я раблю нешта не так, што не павінна ўсё ж адыходзіць ад нейкай нормы, а ён мяне ў гэта ўцягвае і я яму, быццам тая авечка, паддаюся. Нашу ў сабе пачуццё шчасця і нейкай віны. Дапамажы мне, Сэрцайка, выйсці з гэтага тупіка!

**Мар'яна**

Мар'яна! Хто тут сказаў: норма? Ёсць нейкая норма ў каханні? Хто ж можа вызначыць межы раскошы, калі двое людзей кахаюць адно другое?.. Па-мойму, тады ўсё дазволена, абы яно не крыўдзіла нікога з іх і абы яны абое былі задаволены. Калі ў гэтым ёсць згода, лічу, што ўсё ў парадку, і твае згрызоты не маюць ніякай рацыі быту.

Я б хацела заўважыць тут іншую праблему, можа незаўважальную для цябе (пакуль што). Ты не напісала, як доўга вы сустракаецеся, але і так хачу цябе папярэдзіць, што хлопец з такой выбуялай фантазіяй мусіў мець дзесяткі партнёрак. Ці ты можаш быць упэўнена, што будзеш яго апошняй дзяўчынай і назаўсёды, як хацела б гэтага кожная жанчына?

Ой, нешта мне карціць сказаць табе праўду: хоць бы нават і жаніўся з табой, то ён назаўсёды на ніводнай не спыніцца. Нават алтар не ў стане запэўніць вернасць такога чалавека.

Пакахайся, пакуль можаш, а пасля сама ўбачыш, што Сэрцайка мела рацыю. Але не перамайся: што перажыла — тое тваё. Ды і прыдасца для вопыту, якім зможаш падзяліцца з іншымі.

**СЭРЦАЙКА**